

У Міклашэве фэст→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Тарашкевіч — кастынг→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3086) Год LX | Беласток, 5 ліпеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Юбілей беларускага школьніцтва




Дваццацігоддзе беларускага школьніцтва ў Беластоку адзначылі бацькі, дзеці і настаўнікі, якія дваццаць гадоў таму аднавілі навучанне беларускай мовы ў асветных установах горада. Свой вялікі юбілей святкаваў перш за ўсё Самаўрадавы дзіцячы садок №14 у Беластоку (сядзіба якога змяшчаецца па Алеі Пілсудскага, 20/4), у якім дваццаць гадоў таму былі створаны першыя беларускія групы. На адмысловым з'ездзе выпускнікоў сабраліся ў гасціннай канферэнц-зале Ваяводскай управы Падляшскага ваяводства дзеці з бацькамі, якія ў цяперашні час звязаны з гэтым прадшколлем, настаўнікі, супрацоўнікі, сябры і выпускнікі беларускага садка, якіх за 20 гадоў сабралася амаль 300 чалавек — „сапраўдны беларускі батальён" — як сказала дырэктарка **Люцыя Німяровіч**. Урачыстую сустрэчу дапоўніла мастацкая частка — выступы дашкольнікаў, выпускнікоў садка, іх бацькоў і настаўніц. Была і нагода прыгадаць, як усё пачыналася 20 гадоў таму, калі першыя беларускія сем'і — перш за ўсё Міраславы і Юрыя Каліна ды Барбары і Мірaслава Пякарскіх сталі збіраць іншых маладых бацькоў і рыхтаваць грунт пад родны дзіцячы садок, куды маглі б пайсці іхнія дзеці. Трэба было назбіраць адпаведны лік дзяцей, атрымаць згоду бацькоў і аформіць фуру дакументаў. Для адкрыцця групы патрэбны былі сямёра дзяцей. Дзяцей шукалі перш за ўсё сярод сваіх сяброў.

**Барбара Пякарская**: — Мы думалі, як выхоўваць нашых дзяцей, што мы можам для іх зрабіць, каб яны, апрача добрай адукацыі, атрымалі магчымасць вучыць беларускую мову і культуру, песні і вершы, развівацца ў гэтым рэчышчы. І мы, маладыя і бадзёрыя, вырашылі, што можна было б стварыць у Беластоку беларускі садок! Ад пасляваеннага часу ў Беластоку не было ніводнай беларускай навучальнай установы. І мы разумелі, што нашым дзецям давядзецца ісці ў звычайную польскую школу. І калі мы гэта не зробім, то яны ніколі не вывучаць беларускай мовы. Было шмат працы. Спачатку мы разведвалі, колькі будзе зацікаўленых гэтай ідэяй. Хадзілі з Мірай Калінай па хатах (смяяліся, што выглядалі як нейкія прапаведуючыя сваю ідэю сектанткі), тлумачылі людзям. Людзі па-рознаму ставіліся. Некаторыя пыталіся, ці не думалі мы пра тое, што праз гэта дзеці забудуць польскую мову. Трэба было пахадзіць па чыноўніках, знайсці памяшканне для беларускіх груп, сабраць шмат розных папераў. І напрыканцы жніўня нам удалося назбіраць 30 дзяцей. Урэшце нам дазволілі адкрыць 2 групы па 15 чалавек у кожнай. Важнай і складанай справай быў пошук настаўнікаў, якія, акрамя прафесійнай працы з дзецьмі, павінны былі ведаць беларускую мову. І тады мы, бацькі, і Беларускі саюз правялі адбор. Прыйшлі настаўніцы, якія былі зацікаўлены такой працай, і з іх мы выбралі чатыры. Дзве — працуюць там дагэтуль, адна — выехала, адна — змяніла працу. А адна асоба, якая тады не адважылася перайсці са звычайнага ў наш садок, сёння працуе яго дырэктаркай. Прыклад узялі мы ад літоўцаў з Пуньска, якія пераканалі нас, што ў садку дзяцей можна вучыць і працаваць з імі на роднай мове. Напачатку стварэння беларускіх груп мы абяцалі дапамагаць настаўнікам, якія таксама не ведалі як працаваць. І дапамагалі ўсім, чым маглі: фінансамі і працай. Рабілі рамонты, куплялі дзіцячыя цацкі. Але перш за ўсё важнай была праца бацькоў. Мы стварылі тэатр бацькоў і дзяцей, у якім час ад часу бяруць удзел настаўнікі. Назвалі гэты праект „Ад абраднасці да тоеснасці". Самі пісалі сцэнарыі на аснове беларускіх абрадаў. Дапамагалі, чым маглі. І так гэта ёсць па сённяшні дзень.


■ Барбара Пякарская, Юры і Міраслава Каліны

Беларускі садок не з'яўляцца месцам «перахавання» дзяцей. Бурліць ён жыццём — перш за ўсё культурным — не толькі ў звычайны будні дзень, а прымаюць у ім удзел і бацькі, і дзяды дашкольнікаў.

**Люцыя Німяровіч**, дырэктарка дзіцячага садка № 14: — Цяпер мы таксама працуем, пашыраем нашу праграму навучання такім чынам, каб паяднаць бацькоў, каб тыя адчулі, што яны беларусы, каб надалей хацелі вучыць сваіх дзетак беларускай мове, культуры, традыцыям...

З завяршэннем вучобы першага «кантынгента» беларускіх дашкольнікаў пачаліся былі старанні за навучанне іх у пачатковай школе — і працягваюць яны плённа вучыцца ў Пачатковай школе № 4 па вуліцы Чанстахоўскай, 6 а («за плотам» садка), у Непублічнай пачатковай школе імя свсв. Кірылы і Мяфодзія па вул. Варынскага, 30, у гімназіі № 7 па вул. Сталэчнай, 6, у Агульнаадукацыйным ліцэі № 3 па вул. Палацовай, 2, у Беластоку. На з'ездзе выпускнікоў паявіліся таксама былыя дашкольнікі, нават ужо студэнты завяршаючыя вышэйшыя школы. Цешыліся яны разам са спектакля «Кветка шчасця», у якім прымаюць удзел хіба ўсе бацькі і дзеткі. Прынялі і яны ўдзел у адмысловым канцэрце, спяваючы ўлюбёную песню ўсіх дашкольнікаў на словы Леаніда Пранчака «Цік-так ходзікі, мне чатыры годзікі». Канцэрт пачала бадзёрая шматгалосая багатая група цяперашніх дашкалянят, спяваючы і танцуючы, а ўжо моцнымі і ўпэўненымі галасамі падтрымалі канцэрт вучні ПШ № 4 у гурце «Баламуткі». Гэта ўжо не аматары! Дашкольнікі выдавалі свае кампакт-дыскі, бывалі на канцэртах у горадзе, перамагалі ў конкурсах беларускай песні. Выраслі з іх стыпендыяты і пераможцы нават міжнародных конкурсаў, як віяланчэлістка Анна Аляксейчык, валтарніст Сяргей Раманюк, саксафаніст Міхась Бабік ці вакалістка Юля Іванюк, якая спявае ў хоры оперы і філармоніі, а сёння на сцэне выступіла з арыяй. Танцавалі Ксеня Клімюк і Дам'ян Хаманюк, у сямейным дуэце выступілі Дар'я Каспярук і Ясь Васькоўскі, Вікторыя Пякарская сыграла на піяніна, а Мацей Цілюлька — на акардэоне. Бацькі Такаюкі з чатырма дзеткамі, якія хадзілі ў садок у 2002-2011 гадах (Адам, Міхал, Андрэй і Габрыся), а таксама ансамбль мам і сёстраў «Говорыла маты співаты» Анны Місяюк і Івоны Шэрэмэты з дзецьмі далі сапраўды сямейныя канцэрты, якія падарвалі ўсю залу. Канцэртам песень настаўніц з садка № 14, які склалі ансамбль «Світанак», не закончылася гэтая імпрэза «ў сямейнай мастацкай атмасферы» — працягнулася яна салодкім пачастункам і крыху саланавата — нават слязамі — ад радасці ад сустрэчы і ўспамінаў, і гонару.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Галоўны доказ

Здаецца, другая хваля актыўнага і масавага пошуку беларускай гістарычнай самаідэнтычнасці ў нашай найноўшай гісторыі ўжо не за гарамі. Ды яна хіба што ўжо пачалася, пра што сведчыць цэлы шэраг ускосных фактараў. Адзін з іх — разгаранне з новай сілай дыскусіі пра тое, чым беларусы адрозніваюцца ад іншых народаў, і ў першую чаргу ад рускіх. Першая хваля такой дыскусіі з вялікай сілай разгарэлася была напрыканцы 1980-х гадоў. Добрыя былі часы. Аж прыемна ўспамінаць іх.

Чаму ў першую чаргу адрозненні шукаюцца ад рускіх, думаю, для ўсіх зразумела. Справа тут не ў нейкай прыроднай нянавісці да нашага ўсходняга суседа. Ясна, што не. Народ мы не злы, а наадварот, даволі добразычлівы і незлапамятны. Часамі аж занадта. Тут усё значна празаічней. Проста, гэта акурат нашы ўсходнія суседзі стараюцца даказаць нам, што мы, як народ, не існуем. Шкада, што яны так і не прачыталі ўважліва вялікага Міхаіла Булгакава. Памятаеце яго „Майстра і Маргарыту". Як там так шчыра смяяўся Воланд, успамінаючы паэта Бяздомнага, які цэлы вечар даказваў таму Воланду, што ён не існуе. Ну вось, нешта падобнае.

Таму беларусы стараюцца давесці, што яны ёсць, у першую чаргу рускім. Бо самі то мы ведаем, кім мы ёсць. Самім сабе даказваць нібыта і няма чаго. Але ж не. Сітуацыя з пагрозай існавання беларускай дзяржаўнасці, хаця б у такім кволым выглядзе, у якім яна ёсць, прымушае людзей даказваць відавочнае нават самім сабе. Таму зараз у сацыяльных сетках усё большую папулярнасць набываюць матэрыялы пра адрозненні нас ад рускіх.

Пры гэтым дыяпазон такіх доказаў даволі шырокі, пачынаючы ад грунтоўных навуковых даследаванняў, праходзячы праз даволі цікавыя дыскусіі пра дзесяць, або пятнаццаць, або яшчэ колькі галоўных адрозненняў беларусаў ад рускіх, і заканчваючы даволі камічнымі сцвярджэннямі, што ў нашчадкаў ліцвінаў нават мужчынскія органы маюць зусім іншыя памеры, чым у прадстаўнікоў самай „вялікай нацыі" на тэрыторыі краіны. Што ўжо казаць, маўляў, пра іншае. Аб чым далей, нібыта, можна тут яшчэ дыскутаваць.

А вось адзін мой прыяцель ніколі не грузіўся гэтым пытаннем. Ён заўсёды казаў, што добра ведае, чым беларусы адрозніваюцца ад іншых. І гэта нічога агульнага з вышэйпералічаным не мае. Ён увесь час маркоціўся якраз не гэтым, а тым, што ў нас з усходнімі суседзямі, ды і не толькі з імі, а яшчэ з некаторымі іншымі, прыкладам з кітайцамі, ёсць адно падабенства. Гэта ўлады — таталітарныя рэжымы. І які ён нядаўна прыляцеў радасны са сцвярджэннем, што і тут мы ні на каго не падобныя.

— Разумееш, — задаволены крычаў ён, — рускія будуць праводзіць рэферэндум па пытанні ўсталёўкі помніка Дзяржынскаму. Гэта ж даказвае, што нават улада ў іх адрозніваецца ад нашай.

— Не бачу логікі, — адказваю я. — У нас таксама ўсталявалі помнік Сталіну. І што?

— Вось, — крычыць ён, — у нас паставілі, а ў іх рэферэндум. Гэта ж розныя рэчы. Наша ўлада сказала, што будзе стаяць, і ўсё тут. Ёй трэба, каб яе баяліся. І няхай толькі хто пікне. Гэта гаворыць пра тое, што наша ўлада ўжо завершаная сама ў сабе. Ёй больш нічога не трэба. Толькі спакой. А іншае яна ўжо ўсё мае, чаго хацела. А вось расійскай уладзе трэба, каб яе грамадзяне самі паставілі помнік Дзяржынскаму. Каб самі прасіліся на вайну. Бо яна не завершаная. Яна хоча ваяваць, і будзе. Аж пакуль не сканае. Вось у чым галоўная розніца гэтых двух, на першы погляд ідэнтычных, рэжымаў.

— Ну, з рэжымамі мы больш-менш разабраліся, — смяюся я. — А вось ты неяк сцвярджаў, што ведаеш, чым беларусы ад іншых людзей адрозніваюцца. Бо зараз усе пра гэта гавораць. То падзяліся таямніцай.

Ён толькі паціснуў плячамі і сказаў проста да геніяльнасці рэч:

— Дык гэта ж відавочна. Вазьмі дзесяць чалавек розных нацыянальнасцей. Рускіх там, партугальцаў, італьянцаў, яшчэ там каго. Пастаў разам і паглядзі. Няўжо сярод іх ты не пазнаеш беларуса.

— Думаю, што пазнаю, — адказваю я.

— І ўсе пазнаюць сваіх. Партугальцы партугальцаў, рускія рускіх, італьянцы італьянцаў, а беларусы беларусаў. Дык якія яшчэ патрэбны доказы, што мы гэта мы.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Тры пытанні

Крызіс у свеце паглыбляецца. Мае ён эканамічны, палітычны, ідэалагічны маштаб. У кожнай з гэтых сфер пачынае штосьці глючыцца. Блытаніна паасобных частак запанавала над ладам цэласці. Што гэтага з'яўляецца прычынай — не зусім разумеем. Не толькі звычайныя едакі хлеба, але і вучоныя галовы заблудзіліся ў здагадках. Даўно прадказванае банкруцтва Грэцыі, здаецца, непазбежнае. Але што гэта абазначае для свету, еўрапейскай эканомікі? А для грэкаў? І ўскосна для беларусаў, палякаў, немцаў? Я працытую тут анекдот Міхала Мілаша, публіцыста партала «Gazeta Prawna.pl». Сустракаецца двух эканамічных аналітыкаў. «Я нічога не разумею з апошняга крызісу», — кажа адзін. Другі адказвае з перакананнем: «Ідзем на каву, я табе растлумачу». Першы: «Растлумачыць гэта і я магу». Кульмінацыя гэтага анекдота змяшчаецца ў трапным каментарыі публіцыста: «Эканоміка настолькі стала складанай, што часта не разумеюць яе самі эканамісты».

Як і ў эканоміцы, так і ў палітыцы працэсы, якія адбываюцца ўнутры іх, уцякаюць інтэлектуальнаму апісанню. Апошнія шалёныя замахі прыхільнікаў так званай Ісламскай Дзяржавы ў Кувейце, Тунісе і Францыі выклікаюць найбольшую трывогу. Тым не менш, праблема не ў тым, што такія акты агрэсіі адбываюцца ў сучасным свеце. Але гэта можа адбыцца ў любым месцы, незалежна ад іх геаграфічных, культурных ці рэлігійных каранёў. Што яшчэ горш, прастора канфліктаў, дагэтуль вузка абведзеная рацыямі і контррацыямі ўдзельнічаючых у іх бакоў, стаяўшых адзін да аднаго на франтах беднасці і багацця, варожых армій, пагляда ў і перакананняў, цяпер пашырылася на вуліцы, крамы, пляжы, храмы. Так у сытых, як і ў галадаючых краінах.

Паглыбленне эканамічнай дыверсіфікацыі назапашвала ад гадоў чалавечае расчараванне. І тое мусіла разрадзіцца. Напластаваліся на гэта рэлігійныя, філасофскія ці палітычныя эмоцыі, гістарычныя крыўды, культурныя ідыясінкразіі. У выніку ўзнікла выбуховае спалучэнне. Але такога відовішчнага выбуху, зробленага на меру Першай або Другой сусветнай вайны, ніколі не здарылася. На жаль, ён тлее пастаянна. Не змяншаецца і працягвае расці колькасць яго ахвяр: у Судане, Сірыі, Бірме... Быццам бы гэта лакальныя канфлікты, але яны ахопліваюць увесь зямны шар. Ці няма нічога, што спыніла б іх? Больш дзясятка гадоў таму вайна бушавала на Балканах. Надалей не хоча спыніцца ў Іраку. Цяпер перакінулася ва Украіну. Яе агнявыя сляды маглі мы адсачыць ва ўскосна польска-польскім варыянце. Сучасная вайна не патрабуе асфальтавых дарог. Яна абыякавая да палітычных падзелаў. Праслізгваецца, як «зялёныя чалавечкі» праз няшчыльныя межы, праплывае ў дзіравых лодках узбураныя моры, прасочваецца праз бульварныя загалоўкі, паказваецца ў гонцы кар'ерных пацукоў.

Сёння на вайну не трэба ехаць. Вайна прыходзіць да нас. Урываецца ў нашыя розумы. Прымушае нас да вычарпальнай пільнасці. Загадвае глядзець у твары мінакоў, калег на працы, суседзяў. Патэнцыйна любы чалавек можа быць ворагам, вар'ятам, забойцам. Павялічваецца ўзаемны недавер, падазронасць. Паглыбляецца неназваная нянавісць. Мы прабуем рацыяналізаваць яе, але выслізгваецца яна нашаму розуму. Гэтак жа як эканамісты ўжо не ў стане зразумець эканоміку, палітыкі палітыку, так і мы, звычайныя едакі хлеба, не зможам зразумець рэальнасці, з якой прыйшлося нам змагацца. Спрабуем яе апісаць мовай эмоцый. Яшчэ не бярэмся за бомбы, як байцы Ісламскай Дзяржавы, але ўжо пераносім свае сімпатыі на татальна антысістэмнага Кукіза. Яшчэ не страляем адзін у аднаго са зброі, але ўжо паклёпнічаем на суседа неправеранымі падазрэннем. Антысістэмную, антыцывілізацыйную, антыкультурную нянавісць, якая ўспыхнула ў кувейцкай мячэці або на туніскім пляжы, немагчыма апісаць інтэлектуальнай мовай. Мова эмоцый таксама гэтага не растлумачыць. Мабыць, мы павінны спыніцца і спакойна задумацца над асноўнымі пытаннямі: «Адкуль мы прыйшлі, хто мы, і куды кіруемся?».

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Чыстая мова

Вясенне-летні пералом гэта ў Беластоку ўжо традыцыйна прыняты сезон вялікіх падзей, падрыхтаваных пры падтрымцы Беластоцкага асяродка культуры (БОК), і ў больш шырокім сэнсе Гарадской управы, напрыклад, такіх, якія арганізуюцца з нагоды Дзён Беластока. На працягу многіх гадоў у мяне няма ілюзій, што ў магістрацкай думцы аб задавальненні культурных патрэб жыхароў сталіцы Падляшша няма ў рамках Дзён Беластока прасторы для беларускай культуры, па-беларуску. Тым часам, велізарныя сумы грошай траціцца і ставіцца вялікія арганізацыйныя намаганні на канцэрты на адкрытым паветры выпадкова злоўленых у канцэртных агенцтвах зорак і зорачак агульнапольскай сцэны. Сёлета на такім канцэрце выступілі Лукаш Заграбэльны, ансамбль «Cochise» з беластоцкім акцёрам Паўлам Малашынскім і папулярнай сярод падлеткаў Маргарэт. Сёлетнія Дні Беластока складваліся з шэрагу меншых мерапрыемстваў, з якіх усіх адзінае непасрэдна, хоць крыху кранаюча акцэнтаваны ў гарадскіх даведніках мультыкультуралізм — канцэрты царкоўных хароў нават не згадваюцца ў некаторых паведамленнях СМІ аб Днях. Была гарадская патанцоўка з капэлай з варшаўскага Таргуўка, канцэрт груп «Чарамшына» і «Variete» ды Джон Портэр або фестываль катрынак з удзелам майстроў катрынкі са Славакіі, Чэхіі, Зялёнай-Гуры, Бельска-Бялай, Варшавы, а прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі асабіста частаваў жыхароў смажанай каўбаскай і квашанымі агуркамі ў... агародах Браніцкіх. Дні Беластока суправаджаў вельмі праграмна цікавы міжнародны фестываль «Метамарфозы лялек», падрыхтаваны Беластоцкім лялечным тэатрам. Два спектаклі ў рэжысуры Алега Жугжды «Jaśniepanienka» і «Пікавая дама» паказаў у яго рамках Лялечны тэатр з Гродна. Абодва выдатныя, але ў Беластоку паказваліся яны ўжо раней.

Няўдала — як гэта ў канчатковым выніку аказалася — шукаючы «тутэйшых», беларускіх тэм падчас Дзён Беластока, трапіў я ў галерэю Арсенал, на адкрыццё выставы «Чыстая мова». Праходжваўся я паміж працамі розных фармаў са спасылкай на мову як спосаб зносін у некалькіх вымярэннях, сярод нахіленага лабірынта з металу, аб'екта-міргаючага вока, раскіданых літар за шклом, ці невялікай рэканструкцыяй помніка Вавілонскай вежы. У той жа час чытаў прадстаўленую мне інфармацыю аб выставе куратаркі Агаты Хіноўскай, што адной з яе галоўных тэм з'яўляецца міф аб Вавілонскай вежы: «Узнікаючая тэма змяшання моў разглядаецца з пункту гледжання пакарання. Такім чынам, важны арыенцір выставы заключаецца ў зваротным значэнні гэтага міфа, на якія спасылаецца Умберта Эка ў сваёй кнізе «У пошуках універсальнай мовы». Эка звяртае ўвагу на тэорыю, згодна з якой блытаніна — якая разумеецца як множанне, дыферэнцыяцыя — можа быць прачытана як станоўчая з'ява, якая паўплывала, між іншым, на фарміраванне сувязей этнічнай і тэрытарыяльнай прыналежнасці. Гэтая кропка гледжання пралівае новае святло на цэлы шэраг пытанняў звязаных з палітыкай мовы, такіх як нацыянальная мова ў параўнанні з мовамі меншасцей, маргіналізацыя моў меншасцей, мова як выраз этнічнай ідэнтычнасці, стварэнне адзінай універсальнай мовы супраць мультыкультуралізму і поліэтнічнасці. Гэтыя пытанні здаюцца быць вельмі актуальнымі ў эпоху еўрапейскай інтэграцыі. Еўрапейскі Саюз прыняў прынцып, што афіцыйнымі мовамі супольнасці будуць мовы ўсіх дзяржаў-членаў. Гэта спроба пазбегнуць канфлікту, які, безумоўна, быў бы эфектам увядзення афіцыйнай мовы, якая была б мовай аднаго з членаў (з указаннем на англійскую)».

Падчас адкрыцця куратарка адзначыла:

— Я маю на ўвазе на гэтай выставе такі момант, калі мова становіцца крыніцай канфліктаў, а па-другое, калі гэтыя канфлікты перакладваюцца на мову, калі пачынае ўваходзіць палітыка і становіцца яна відавочнай якраз у мове.

І хоць на выставе я не знайшоў прамых спасылак на беларускую мову (беларускія мастакі таксама не прадстаўлены на ёй; працы паказваюць артысты з Польшчы, Францыі, Даніі і Венгрыі), гэта дае таксама ў гэтым кантэксце шмат, каб падумаць. Таксама ў кантэксце арганізацыі Дзён Беластока і мовы, на якой размаўляе беластоцкая ўлада з яе жыхарамі-беларусамі праз прапанаваныя ёю мерапрыемствы, а для беларусаў у рамках Дзён Беластока — у кантэксце адсутнасці такой мовы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Беларускі фэст у Міклашэве

**Многа людзей сабралася ў Міклашэве Нараўчанскай гміны, дзе 14 чэрвеня Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ў супрацоўніцтве з гміннымі ўладамі арганізавалі беларускі фэст пад лозунгам «І там жывуць людзі». Прыбылі мясцовыя жыхары, выхадцы з Міклашэва і суседніх вёсак і наведвальнікі беларускіх фэстаў у розных месцах Гайнаўшчыны.**



Мастацкі калектыў «Цаглінкі» з Ляўкова

У Міклашэва прыязджаў я некалькі разоў, апісваў яго мінулае і сучаснасць. Цяпер больш тут адрамантаваных дамоў і маладых асоб на вуліцы. Да сваіх бацькоў прыбылі дзеці з унукамі з Гайнаўкі і Беластока, якія пастаянна наведваюць іх летам. На гэты раз прыехалі паслухаць беларускіх песень. Мерапрыемства адбывалася побач вясковай святліцы, якая змяшчаецца ў будынку былой школы. У ёй пераапрануліся выканаўцы і там арганізавалі салодкі пачастунак. Беларускія калектывы выступалі на вялікай гміннай сцэне, якая выкарыстоўваецца, між іншым, для беларускіх фэстаў.

— Я яшчэ вучыўся ў гэтым будынку. Былі тут дзве класныя залы і настаўніцкі пакой. Нядаўна закончыўся рамонт будынка з прызначэннем яго на святліцу, але не паспелі яшчэ яго афіцыйна адкрыць. Я рады, што многа жыхароў прыбыло на беларускі фэст. Відаць запатрабаванасць на беларускія мерапрыемствы. Арганізавалася тут сустрэча з беларускімі паэтамі. Мая мара — арганізаваць для нашых жыхароў канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча. Нашым людзям падабаюцца беларускія эстрадныя песні. Цікава было б паслухаць таксама вядомага барда. Паколькі святліца ўжо адрамантаваная, будзем выходзіць да нашых жыхароў з прапановамі, — сказаў солтыс Міклашэва Павел Трусевіч. — Хаця ў вёсцы таксама меншае колькасць жыхароў, то ёсць яшчэ ў нас малодшыя асобы і дзеці ў школьным узросце, за якімі прыязджае школьны аўтобус.

Аднак асноўная частка жыхароў Міклашэва гэта пенсіянеры, частка якіх з дапамогай гарадскіх дзяцей яшчэ абрабляе зямлю.

— У нас каля 75 дамоў, у якіх жыве яшчэ каля 150 жыхароў. Большасць хат, у тым ліку і мой дом, распалажаныя на хутарах, таму асноўная частка сяла не такая і вялікая. Апрацоўваем сваю зямлю, бо атрымліваем яшчэ еўрасаюзныя і дзяржаўныя даплаты да сельгаспрадукцыі. Я гадую яшчэ цялят. Некалькі гаспадароў гадуюць па 20-30 кароў, бо ад гэтага большы прыбытак, чым ад вырошчвання збожжа на грунтах горшай якасці. Свіней гадуем толькі на свае патрэбы. Калі ў нашай гміне выявілі хворую свінню (хутчэй за ўсё ўзяла гэтую хваробу ад дзікоў), павешалі ўсім свіням завушнікі. Зараз, каб закалоць свінню, трэба праверыць кроў перад яе забоем і пасля спраўдзіць мяса, што каштуе. Можа будзем нават адракацца гадаваць свіней на свае патрэбы. Вырошчванне збожжа і бульбы стала складаным з-за вялікай колькасці дзікоў, якія развяліся ў Белавежскай пушчы. У мінулым у нас увогуле не было праблемы з дзікамі, а да восені мінулага года яны так развяліся, што знішчылі нават збожжа і бульбу на ўчастках распалажаных далей ад лесу, — сказаў Ян Драўноўскі, былы гмінны радны, які добра ведае праблемы сваёй вёскі.

На сцэне першым выступіў беларускі мастацкі калектыў «Цаглінкі» з Ляўкова.

— Восенню, праз год, будзем адзначаць 40-гадовы юбілей нашага калектыву. Рыхтуем новы рэпертуар пад юбілей. Спяваем беларускія народныя песні і аўтарскія творы. Я скампанаваў песні на вершы Міколы Варанецкага з Альхоўкі. У Міклашэве вельмі добрая атмасфера. Нам асабліва цікава запрэзентавацца перад публікай Нараўчанскай гміны, — сказаў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны. — Нядаўна мы святкавалі юбілеі нашых спявачак. Мы рады, што з намі надалей выступае Вера Осяк, якая нядаўна адсвяткавала сваё 80-годдзе.

— Я люблю спяваць беларускія песні і калі будуць сілы, хачу яшчэ выступаць з «Цаглінкамі», — адзначыла Вера Осяк.

Сярод публікі былі войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч і дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, якія раней адкрылі беларускі фэст.

— Мы рады, што Беларускі музей з Гайнаўкі ў супрацоўніцтве з намі ўжо шосты год. У нашай гміне беларускі фэст з цыкла «І там жывуць людзі» ладзіцца ў вёсках, у якіх ужо даўно не арганізаваліся музычныя мерапрыемствы. Пасля такога фэсту мясцовыя жыхары просяць ладзіць чарговыя мерапрыемствы штогод. Так было, напрыклад, у Масеве, дзе зараз штогод арганізуюцца фэсты. Я не памятаю, каб у Міклашэве быў нейкі музычны фэст. Я рады, што сабралася тут многа людзей. Відаць, што людзі хочуць слухаць беларускія песні. Ім цікава супольна павесяліцца, — сказаў войт Мікола Павільч.

— Мы задаволены беларускім фэстам, магчымасцю паслухаць родныя песні. Я не памятаю, каб нават у час маёй маладосці арганізаваўся падобны фэст, таму сёння ў Міклашэве такое вялікае свята. Штогод трэба арганізаваць у Міклашэве беларускія фэсты, — заявіў гміны радны Анатоль Раманчук.

— У нашай гміне пражывае многа паэтаў, якія пішуць па-беларуску. Мы арганізуем сустрэчы з паэтамі, ладзім беларускія фэсты. На беларускія мерапрыемствы людзі прыходзяць ахвотна, — сказала дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена Рэент.

Фэст у Міклашэве вялі Паўліна Паўлючук-Коська і Мар'еля Герман. Вядомая рукадзельніца і паэтка з Плянты Галіна Бірыцкая напісала адмысловы верш «У Міклашэве фэст». Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк пахваліў супрацоўніцтва яго ўстановы з Нараўчанскай гмінай і мясцовым Гмінным асяродкам культуры — суарганізатарамі фэсту ў Міклашэве.

— Нашыя беларускія фэсты плануем арганізаваць у некалькіх гмінах Гайнаўскага павета і ў Арлянскай гміне Бельскага павета, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

На сцэне з меладычнымі песнямі выступіў калектыў «Калінка» з Беластока, якім кіруе Марыюш Харужы.

— Жыхарам вёсак складана дабірацца на музычныя мерапрыемствы ў павятовы цэнтр, таму ладзяцца фэсты з цыкла «І там жывуць людзі», у рамках якіх беларускія музычныя калектывы прыязджаюць у невялікія вёскі. Гэта вельмі добрая ідэя. А нам добра выступаць на прыродзе перад шматлікай публікай. Відаць, што людзі хочуць слухаць беларускую песню. Мы выконваем эстрадны рэпертуар, які падабаецца і вясковай, і гарадской публіцы, — заявіў Марыюш Харужы.

Наведвальнікі фэсту маглі купіць беларускую літаратуру, майкі і сумкі з беларускімі надпісамі, гліняны посуд і выцінанкі, выкананыя рукадзельнікамі з Беларусі і Беласточчыны. Сувеніры прадавалі працаўнікі Гайнаўскага белмузея.

У белмузейных памяшканнях працуе Цэнтр гульняў для дзетак «Гуля-Куля», які арганізуе гульні і адпачынак для дзетак. У Міклашэве працаўнікі цэнтра прадавалі цацкі, размалёўвалі дзеткам твары, прапанавалі гульні.

— Мы адначасна запрашаем дзетак прыязджаць гуляць да нас, у Гайнаўку, — сказалі працаўніцы Цэнтра «Гуля-Куля».

Падчас фэстаў, арганізаваных Гайнаўскім белмузеем, часта выступае нарваўскі калектыў «Арт-Пронар».

— Спяваем на шматлікіх беларускіх фэстах. Я бачу, што Гайнаўскі белмузей робіць асабліва добрую рэкламу сваіх фэстаў у інтэрнэце. Гэта спрыяе большаму зацікаўленню музейнымі мерапрыемствамі шырокага грамадства, бо мясцовыя наогул даведваюцца аб фэстах з аб'яў, ад солтыса ці радных, — сказаў Ян Снарскі, музычны кіраўнік «Арт-Пронару».

Перад публікай выступілі яшчэ калектывы «Сказка» з Беластока і «Метро» з Гайнаўкі.

— Мы выступаем з 2006 года і выконваем эстрадную музыку, — заявіла музычны кіраўнік «Сказкі» Паўліна Казёл.

Гаспадары адыходзілі, каб *упраўляцца*, паіць і даіць кароў, займацца хатняй жывёлай. Іх месца займала моладзь, якая любіць спатыкацца адвячоркам.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

---

Галіна БІРЫЦКАЯ

## У Міклашэве фэст

Міклашэва вёсачка малая,
Прыгожая зімой, вясной і ўлетку.
Рассцілаюцца зялёныя нівы,
На панадворках цвітуць
рознакаляровыя кветкі.
Спакойна і ціха тут жывецца.
Аб сцены разбіваецца цішыня.
Добра снаваць свае думкі,
Бо ў цішыні думка прыходзіць не адна.
Спадчынай астаецца тутэйшая простая мова,
Пачуеш яе дома, на панадворку і ў полі,
Якая, дай Бог, не загіне ніколі.
Сёння ў Міклашэве фэст пад загалоўкам
«І тут жывуць людзі».
Забірайце з хаты дзеда і бабу —
Хай ім таксама весела будзе!



## Пенсіянеры не нудзяцца

Ад многіх гадоў гурток № 12 Польскага саюза пенсіянераў у Беластоку дзейнічае актыўна, у выніку чаго члены не нудзяцца. Дзякуючы працавітай праўлене гуртка (тры жанчыны і адзін мужчына), якую ўзначальвае Зінаіда Аляксейчук, не было такога месяца, каб не было ладжана культурнае мерапрыемства. Адзначаліся дні жанчын, сеніёра, маці, арганізаваліся сустрэчы пры пячэнні бульбы, пры аплатцы, вечар варажбы ў дзень св. Андрэя. У летні перыяд пенсіянеры ладзяць краязнаўчыя экскурсіі. У чэрвені адбылася экскурсія ў Мельнік. Пабывалі мы ў Музеі Мельніцкай зямлі і крэйдавым кар'еры, наведалі касцёл і царкву. Прыемна здзівіў нас настаяцель праваслаўнага прыхода, які сустрэў нас ля парога царквы, дэталёва расказаў пра гісторыю Мельніцкай зямлі і адслужыў малебен за ўсіх удзельнікаў экскурсіі.

Апрача душэўнай стравы арганізатары падбалі таксама пра страву для цела. У час інтэграцыйнай бяседы са спевамі ў мясцовым рэстаране панавала сапраўды сямейная атмасфера.

На ліпень запланаваны дзве экскурсіі — у Бандары на фэст „Бандароўская гасцёўня" ды ў Гайнаўку і Чыжы. У экскурсіях па меры магчымасці прымаюць удзел пенсіянеры з іншых гурткоў. Каб сарганізаваць кожнае мерапрыемства, трэба патраціць многа часу і ўкласці шмат працы. Члены гуртка № 12 шчыра дзякуюць сваёй праўлене за руплівасць.

**Канстанцін МАСАЛЬСКІ**

## Лекавыя зёлкі

На Гайнаўшчыне працуе многа пунктаў скупкі лекавых зёлак суполкі «Руно» ў Гайнаўцы. Вопытныя збіральнікі маюць магчымасць зарабляць. Дастаткова здабыць крыху ведаў пра лекавыя расліны і пра спосабы іх сушэння. Варта дадаць, што зёлак не збіраем у дажджлівыя дні, а толькі ў пагодлівыя.

На ўсёй тэрыторыі Гайнаўскага павета зёлкі найлепшыя (тут для іх добрыя ўмовы) і іх шмат. Сёлета збіраць іх будуць яшчэ тры месяцы: у ліпені, жніўні і верасні. Цяпер лета ў разгары. Школьная моладзь можа зарабіць на атракцыйныя экскурсіі падчас летніх канікул. «Руно» плаціць за кілаграм сушанага лісця брусніцы 12 злотых, чарніцы — 15 зл., суніцы — 10 зл., маліны — 3 зл., падбелу — 10 зл., дзьмухаўца, крапівы і трыпутніку (babki) — па 7 зл.

Суполка заахвочвае збіраць цвет язміну і дае зарабіць за кілаграм гэтых вельмі пахучых кветак 25 злотых. Кілаграм цвету канюшыны каштуе 20 злотых, стакроткі і дзікай ружы — па 30 зл., падбелу — 15 зл. і крываўніку — 7 зл.

За зелле святаянніку (dziurawca) плацяць 3 зл., братка — 5 зл., ясноткі (глухой крапівы) — 7, 50 зл., адуванчыка, крываўніку і жывакосту — па 4 зл., чабору (macierzanki) — 10 зл., марэны (marzanny) — 30 зл., крапівы — 2, 50 зл. і палявога хвошчу — 3, 50 зл. за кілаграм.

За кілаграм сушанага карэння пяцёрніку можна зарабіць 15 злотых, конскага шчаўя — 7 зл., крапівы — 5 зл., лопуху — 10 зл., адуванчыка — 12 зл. і жывакосту — 6 зл.

Купляюць таксама сушаную кару дуба і плацяць 2 зл. за кілаграм, каліны — 12 зл., крушыны — 3, 50 зл. і вярбы — 1, 50 зл.

Дык збірайма лекавыя зёлкі! Зараз маюць яны шырокае прымяненне. Іх выкарыстоўваем у фармацэўтычнай, касметычнай і харчовай прамысловасці. Усё больш прымяняюць зёлкі і ў дамашняй гаспадарцы — як прыправы да страў, адвары да смакавітых напояў.

**(яц)**



# Залучанская «Купальночка»

**Карагод калектываў са спевам песні «Купалінка», канцэрт гуртоў і вакалістаў, якія працуюць пры Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку і сяброў з суседніх гмін, шэсце да ракі Супрасль і пусканне вянкоў, нарэшце, забава да позняй ночы з гуртом «Сакрэт» з Міхалова скланіся на сёлетнюю «Купальночку» ў Залуках. У гэтым годзе зоркай былі «Прымакі», якіх лідар, адзін з сузаснавальнікаў гурта Юрка Астапчук некалькі месяцаў таму зноў стаў дырэктарам ГЦК. Замяніў ён на гэтай пасадзе пасля шасці гадоў Юрку Хмялеўскага, які ў цяперашні час працуе намеснікам бургамістра Міхалова. З нагоды гэтага свята высветлілася, што «Прымацкай бяседы» больш не будзе ў Міхалове, а будзе яна ў Гарадку. У такой формуле будзе праходзіць сёлета дасюлешняя «Сяброўская бяседа».**

Юрка Астапчук:

— «Прымацкую бяседу» пераносім у Гарадок. Таму «Сяброўская бяседа» будзе выглядаць менавіта так, як «Прымацкая бяседа». Я буду вяртацца ў рамках гэтай падзеі да тае сапраўднай традыцыі: так, як павінна выглядаць гэтая імпрэза, паказваючая выключна беларускую культуру і традыцыі, з караваямі, гасцінцамі і цудоўнымі беларускімі калектывамі.

Пра свае купальскія ночы ўспамінаў у размове з «Нівай»:

— З першай у маім жыцці купальночкі мала што памятаю. Калі я быў маленькі, адбывалася яна ў маёй бабулі ў Рудутах недалёка Орлі. Калі я быў дырэктарам ГЦК у Гарадку, стварыў у Залуках разам з мясцовымі жыхарамі гэтую падзею. Гэта, у асноўным, іх ідэя: яны хацелі, каб у ноч Купалы пускаць вянкі на іхняй рэчачцы, а вядома, у Залуках заўсёды было шмат прыгожых дзяўчат.

У гэтым годзе спаўняецца дваццаць гадоў з моманту ідэі фарміравання групы «Прымакі». Іх першая касета «Зорка ясная» была выпушчана ў 1995 годзе і тады іх «Смэрэка» стала гітом некаторых радыёстанцый, хоць па календары толькі ў 1996 годзе якраз Юрка Астапчук, Марк Зрайкоўскі і Багдан Місяюк сфармавалі групу і далі ёй назву:

— У прынцыпе, калі гаворка пра працу каманды на сцэне, мінула ўсяго дзевятнаццаць гадоў, але адзначым факт нашага дваццацігоддзя на «Сяброўскай бяседзе», на якую прыедуць многія з нашых знакамітых сяброў з Беларусі і будуць з намі святкаваць юбілей. Самы папулярныя буйныя зоры: «Песняры», «Бяседа», «Сябры».

Усе залучанскія «Купальночкі» дакладна памятаюць удзельніцы мясцовай групы «Каліна». Яе сяброўка Зіна Мойсак успамінала ў час апошняга мерапрыемства:

— Раней тут не было такога святкавання. Дзесяць гадоў назад мы прыдумалі сваю «Купальночку» і так мы робім да сёння — з карагодам з вянкамі на сцэне, выступамі калектываў і шэсцем да ракі, каб пускаць вянкі, выступленнем зоркі вечара і танцамі. Дзякуючы гэтаму зусім інакш, весялей, жыве ўся вёска. Кожны год прыязджае да нас многа людзей з-за межаў нашай вёскі. Уся вуліца ў гэты вечар застаўлена аўтамабілямі. Па дзесяць аўтамабіляў стаіць на некаторых дварах. І ў нас заўсёды ёсць добрае надвор'е, калі робім тут «Купальночку», і калі ў нас дажынкі. Відаць, што мы чагосьці вартыя ў Бога, калі дае нам такую пагоду. Сёлета ў нашай «Калінкі» аж чатыры дзяўчыны пайшлі замуж. Мабыць, гэта таму, што ў мінулым годзе падчас фэсту знайшлі былі сваю папараць-кветку. Цяпер няма так, што пазнаёміліся ў купальскую ноч



Янка Карповіч — лідар „Хутара"

і пажаніліся праз месяц. Зараз цяпер з год трэба чакаць вяселля, таму што залу трэба арандаваць, і такое там іншае. Але ў купальскую ноч маладыя надалей бліжэй знаёмяцца, а і звязваюцца адзін з адным.

Галіна Боўтрык, якая займалася калісь гаспадаркай у Белявічах непадалёк Гарадка, цяпер жыве ў Бандарах і штогод прыязджае з мужам у Залукі на «Купальночку»:

— Мы ездзім з мужам па ўсіх вёсках і мясцовасцях на беларускія фэсты. Цяпер у нас у Бандарах адбываюцца рэгаты, і было б цікава глядзець, але мы прыехалі сюды, таму што тут можна паслухаць беларускія песні. На вянкі мы застарыя. А калі мы былі маладзейшыя, адзначалі купальскую ноч: бегалі па вёсцы, перад бацькам хаваліся, з бярозкі рабілі вяночкі на галаву. Маёй маці 87 гадоў і калі я з мужам выбіраюся на такую імпрэзу, пытаецца: а чаго вам туды? І я адказваю ёй: забылася карова, як цялём была? Файна так пабыць з людзьмі, калі ўсе так гуляюць разам.

Канцэрт падчас «Купальночкі», традыцыйна на сцэне перад сельскай школай, вялі на беларускай і польскай мовах. Пабеларуску калектывы абвяшчала Іна Зуева, нядаўняя выпускніца факультэта гісторыі ў Мінску, якая ў святліцы гарадоцкай гімназіі і дзіцячым садку адбывала ў час нядаўна завершанага школьнага года практыкі ў рамках міжнароднай праграмы абмену студэнтамі «Erasmus +». Пры нагодзе — як падчас «Купальночкі» — спявала ў капэле «Хутар».

— У Беларусі ноч Купалы святкуецца крыху пазней, у ліпені. Найчасцей маладыя людзі сустракаюцца на прыватных забавах, карагодах вакол вогнішча. Я заўсёды, быўшы малой, ездзіла летам да бабулі ў раён горада Беразіно над ракой Бярэзінай, і там рабілі такія імпрэзы, вядома, без канцэртаў. Не было так народна, без кідання вянкоў у раку.

Сама капэла «Хутар» змянілася да непазнавальнасці. Гэта з-за новых касцюмаў, якія моцна адрозніваюцца ад тых, у якіх выступае большасць беларускіх калектываў Беласточчыны.

Лідар каманды Ян Карповіч:

— Мы касцюмы пашылі ў мінулым годзе. Вышыўка на іх такая нашая, больш тутэйшая, рэгіянальная. Калі глядзець на большасць нашых беларускіх калектываў, іх касцюмы з'яўляюцца даволі прамысловымі ўзорамі. Мы ўзялі ўзоры са старых макатак, ручнікоў, з тэрыторыі паміж Ваўкавыскам і Беластокам. Распрацавала іх наша мастачка з ГЦК Марыя Мялешка, а жанчыны з Беластока нам пашылі.

У час сёлетняй «Купальночкі» ў Залуках традыцыйна выступілі групы працуючыя пры ГЦК — апрача «Хутара» — «Каліна» ці «Расспяваны Гарадок». Як заўсёды прыехалі госці з суседніх гмін, у тым ліку не першы раз група «Мальвянкі» са Студзянак з-пад Васількава, дзе купальская імпрэза адбылася напярэдадні. Адна з удзельніц «Мальвянак» Ірэна Кошэль расказала нам:

— Я родам з Дубяжына пад Бельскам-Падляшскім, і там, у маёй маладосці, пускалі вянкі ў Белую, раку, што ідзе побач Дубяжына. Хлопцы лавілі вянкі і выдурняліся, цудавалі, усяго там было да раніцы! Танцавалі, гулялі яшчэ нават на другі дзень. Тады не было такіх капэлаў, як у Залуках. Прыходзілі хлопцы з суседняй вёскі. Адзін іграў на бубне, другі на гармоніі-педалёўцы, а ўсе пры лавачках танцавалі.

Пры нагодзе залучанскай «Купальночкі» свае першыя купальскія ночы ўспамінала ў размове з «Нівай» таксама Дарота Сульжык, родам з Гарадка, якая працуе ў Валілах-Станцы, галоўная рэдактарка «Гарадоцкіх навін», страсная майстрыха лямцавання:

— Мая першая купальская ноч, якую памятаю — з Гарадка. Арганізавалі яе на Замкавай гары ў канцы 1980-х гадоў, яшчэ перад маёй вышэйшай школай. Наколькі я памятаю, прыехала тады шмат людзей з БАСу. Памятаю Басю, цяпер Пякарскую, былі Аліна і Коля Ваўранюкі. Мы спявалі «Купалінку». Памятаю, што Аліна і Барбара навучылі мяне новай купальскай песні «А ў купальскую ноч...». Былі вянкі і вогнішча. Наступную купальночку памятаю з рэйду БАСу «Бацькаўшчына» пасля майго першага года вучобы і, наколькі я памятаю, гэта было ў Дубічах-Царкоўных: доўгія спадніцы, вецер у распушчаных валасах, вянкі... У мінулым годзе, у канцы чэрвеня я была на свяце Купалы ў Літве. Літоўцы гэтаму святу прысвячаюць шмат увагі (24 чэрвеня ў Літве нават выхадны дзень — М. Х.). Было там шмат язычніцкіх, відовішчных элементаў. Гэта быў прыгожы спектакль: жанчыны ў льняных строях, кіданне зямлі і солі ў агонь... Ад некалькіх гадоў я на «Купальночцы» ў Залуках і вельмі мне падабаецца такое святочнае пусканне вянкоў у Супрасль з шэсцем перад гэтым і спевам. На Падляшшы гэты фэст стаў трохі камерцыйным, але я не фанатка ў гэтым выпадку вернага прытрымлівання традыцыі. У наш час трэба чэрпаць з традыцыі і выкарыстоўваць яе па-свойму. Я думаю, што ўсю народную культуру так трэба выкарыстоўваць.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Кастусь з Крушынян

**— Гавары праўду, прымушаюць сучасныя дэмакраты, але такую, якая нам падабаецца, — канстатуе спадар Ян Пятэльскі родам з Крушынян.**

Сустракаемся ў яго бацькоўскай хаце. Ніхто тут цяпер не жыве, але ўсё ўтрымана ў належным парадку. Чысценька, трава скошана, нават агарод дагледжаны. З Беластока ў Крушыняны кусок дарогі. Ян — настаўнік-пенсіянер, мог бы вярнуцца сюды назаўсёды. Прынамсі было б чым заняцца, але што ж, калі жонцы горад вельмі спадабаўся. Парадку ў агародзе і прыстойнасці ў жыцці навучыўся ад бацькі Канстанціна. Успамінаем яго, выпіваючы гарбату з кубкаў, якімі напэўна ён сам карыстаўся.

З аднаго боку сапраўдны паслядоўнік камунізму, з другога — самы лепшы прапаведнік веры Хрыстовай. Хацелі яго ў партыю, але ніколі не запісаўся. Маўляў:

— Да каманды злодзеяў далучацца не буду.

Не цікавіўся назвай дзяржаўнага ладу. Галоўнае, каб звычайным грамадзянам добра жылося.

Уся яго адукацыя — чатыры зімы царскай школы. Хапала, каб, літаральна, глытаць Талстога, Ясеніна ці іншых, у асноўным, расійскіх аўтараў. Добра валодаў не толькі рускай, але таксама польскай, нямецкай і крыху яўрэйскай мовамі.

Ніколі не ганяўся за прыязджаючымі ў вёску спевакамі, кінаперасоўкай ці іншымі фокуснікамі. Трымаўся працы і ўласнай хаты.Такім чынам абараняўся ад сустрэч з кепска жадаючымі, зайздроснымі людзьмі.

Перажыў цара, санацыю, вайну, камунізм. Не змог глядзець, як пры санацыі ў нядзелю ўсе выходзілі на ганак выбіваць вошы. Надта цяжка тады жылося. Адзін «законны», «справядлівы» легіянер так яго збіў, ажно вінтоўку разбіў. За што? Легіянер любіў задарма напіцца, а тут нагода паявілася. Жыд, у якога працаваў Кастусь, запрапанаваў яму кілішак узамен за дапамогу ў павышэнні вытворчай магутнасці працаўнікоў. Ва ўсякім выпадку вінтоўка выйшла з карыстання на Кастусёвай спіне, а голас справядлівасці ў гэтай справе ніколі не прагучаў.

Потым прыйшла вайна. Некаторыя, гледзячы яму ў вочы, гаварылі:

— Panie Petelski, pan jest komunista.

Безупынна клікалі яго ў крынскую жандармерыю. Палякаў, якія супрацоўнічалі з немцамі, у Крушынянах не бракавала.

— Адзін такі ўвайшоў у камеру з сукастай палкай, — распавядае бацькаву гісторыю спадар Ян. — Паставіў свой выглянцаваны боцік на нары і сказаў: «Хто быў нічым, ёсць усім». Затым усіх па чарзе пачаў дзяліць той жа палкай. Бацька, вядома, не бараніўся, толькі ў вочы яму глянуў. Гэтаму рука задрыжала, ажно калок на зямлю зваліўся.

Нават на расстрэл у скрабляцкі лес яго завезлі. Здранцвеў як дрэва, стоячы насупраць гатовых да стрэлу кулямётаў. Мабыць, у апошнюю хвіліну нейкі немец на матацыкле прывёз загад адмяніць экзекуцыю. Кастусь шчасліва вярнуўся дахаты. Калі зноў яго арыштавалі, камісар запытаў па-нямецку:

— А чаму вас так часта тут прывозяць?

Той па-нямецку адказаў:

— Тут пападаюць толькі праваслаўныя.

— Польскія правакатары! — разлаваўся камісар і выпусціў усіх крушынянцаў з арышту.

Напалову сваімі, напалову бацькавымі думкамі спадар Ян працягвае свой аповед:

— Пасляваенная камуна людзей абмыла, дала ім свята, школы, працу, пенсіі гаспадарам. Не былі гэта вялікія грошы, але хто хацеў, той працаваў і нечага дарабляўся. Па сметніках не хадзілі, пад касцёламі не сядзелі.

А чаго ж у гэтых Крушынянах тады не было: пошта, школа, кіёск „Рух”, крама, пажарная каманда, амбулаторыя, у якой прымаў беларускамоўны Пяткевіч, вядомы як глухі доктар. Здаецца, з Кастусём мелі яны шмат супольнага. За дабрату і шчырую ахвоту вылечыць людзей Кастусь называў Пяткевіча доктарам Юдымам.

Працавала таксама вясковая бібліятэка. Калі яе ліквідавалі, ніводная кніжка не змарнавалася. Кастусь усё перавёз у Беласток.



Кастусь Пятэльскі

Надта працавіты, бескарысны чалавек. Усюды было яго поўна, прытым уражваў сваёй дасканаласцю. Жыў у часах сацыяльнага чыну, такой-сякой справядлівасці і максімальна гэтым пакарыстаўся. Старшынстваваў земляробчаму кружку, 60 гадоў кіраваў крушынянскімі пажарнікамі, дзейнічаў у гміннай радзе і асяродку сацыяльнай дапамогі. Спадар Ян не ў змозе пералічыць усіх грамадскіх абавязкаў свайго бацькі.

— Нават у Палац культуры папаў, — паказвае мне фотадоказ гэтага здарэння. Сур'ёзны мужчына ў шэрым касцюме, пад гальштукам, з двума медалямі і партфелем у руцэ. Ззаду вялікія сталічныя будынкі, на адным з іх надпіс „Цэнтр”. Ёсць таксама кароткая, але дэталёвая нататка: „Варшава, 17 чэрвеня, 1973 г. У дарозе на пасяджэнне ў канферэнцыйную залу. Моцны вецер адхіліў палу”.

Перад вайной і зараз пасля яе працаваў на беластоцкай фабрыцы „Ухвыты” па вуліцы Старабаярскай. Быў там кавалём, слесарам і старшынёй рады прадпрыемства. Гаспадаркай займалася тады жонка. Умеў каня падкаваць, зрабіць надмагільны крыж, а з пакінутых у лесе танкаў — добры плуг. Дзьмуць у кавальскі мех дапамагаў яму малы Янка. Прыязджалі да яго з усяго павета, таму што рабіў добра і барышоў не выпіваў.

Прыязджалі і здаровыя, і хворыя. Усім дапамагаў як мог і чым мог. Валодаў незвычайнай энергіяй, якую выкарыстоўваў менавіта пры лячэнні. Меў спецыяльную кніжачку — малітоўнік, не вядома дакладна праваслаўны ён ці каталіцкі, паводле якой выпісваў рожу. Вастрыў бярозавую ветку, макаў яе ў атрамант і ў адпаведных месцах на целе пацыента рысаваў кругі і крыжыкі. Рожа прычапілася, між іншым, да прыбылага з Польшчы маладога члена каманды бурыльшчыкаў. Лякарствы не дапамаглі. Хаця знахарства было тады строга забаронена, доктар пацыху падказаў схадзіць да бабкі. Тры разы Кастусь замаўляў яму гэтую рожу, перад і пасля заходу сонца. Дапамагло. Бацька цудоўна аздаравелага хацеў заплаціць. Кастусь верыў, што за грошы вылечыць немагчыма. Не лічыў сябе доктарам, а толькі пасрэднікам паміж Богам і хворым. Летам захварэла сваячка. Жыта ў полі даспела, а ёй нагу адняло. Бяда, аж страх. Кастусь замовіў раніцай і ўвечары. На другі дзень ужо світае, а хворай няма. Светла ўжо, замаўляць не пара, а і праведзенага на чаканні часу таксама шкада. Выходзіць ён з хаты, а тут Груня не ідзе, а бяжыць з сярпамі на поле.

— Груня, вы ж мелі прыйсці да мяне на малітву.

— А навошта мне малітва, калі нага ўжо здаровая.

Адзін знаёмы з вёскі пазайздросціў бацьку незвычайнага таленту. Забраў яму лячэбны малітоўнік. Каб мудрым стаць, Нерон забіў мудраца і з'еў яго мозг. Не стала ні мудрасці, ні лячэбнай сілы. Кастусь рашыў, што без гэтай кніжкі займацца замовай немагчыма.

Але гэта далёка не ўсе таленты Кастуся. За парадай прыходзіў да яго сусед Славік Макаль. Пісаў ён вершы, якія друкаваліся ў „Ніве”. Перш чым пасылаць у рэдакцыю, трэба было іх прачытаць і абгаварыць менавіта з Кастусём.

Сам ён таксама пісаў. У асноўным фельетоны пра паляпшэнне Рэчы Паспалітай, пра народ і краіну, у якой жыў. Крытыкаваў несправядлівасць, марнатраўства і негаспадарнасць. За гэта нажыў ворагаў, але нікога не баяўся. Быў надзвычай спакойным чалавекам, ні з кім не біўся, не сварыўся. Меў адказ на кожнае пытанне, нават пра Фалклендскую вайну мог выказацца.

Свае тэксты пасылаў у „Ніву”, „Газету беластоцкую” і „Хлопскую дарогу”. Некаторыя зайздросцілі яму пісаніны, думалі, што вялікія грошы на гэтым зарабляў.

Яго рукапісы не захаваліся. Паплылі з мінулагоднім даждом, дакладна ў дзень вясковага фэсту на Ганну.

Тэму нацыянальнай свядомасці ў хаце ніколі не ўздымаў. Лічыў сябе перш за ўсё грамадзянінам Польшчы. Не рашыўся на пасляваенную рэпатрыяцыю ў Беларусь у адрозненні ад брата, які за любоў да СССР 25 гадоў будаваў Байкальска-Амурскую магістраль. Ажаніўся з каталічкай, а дзетак Янку, Севярына і Ірэну выхоўваў строга і ў пашане да асноўных яму каштоўнасцей.

Памёр у 1994 годзе, ніколі не падумаўшы, што надыдуць такія часы, у якіх, калі б жыў, напэўна звар'яцеў бы.

**Іаанна ЧАБАН**

## Ад Яна да Івана

Так называюцца транспамежныя культурныя мерапрыемствы, якія ладзілі Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы і Аддзел культуры Выканаўчага камітэта ў Камянцы ў Беларусі.

У мінулым годзе летам у Нараўцы выступалі песенныя калектывы з Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці «Горліца», «Сунічкі» і «Вечарынка». За мяжу ездзілі з песнямі «Нараўчанкі» і «Цаглінкі». Польскія і беларускія калектывы абмяняліся вопытам сваёй працы: музыкай, спевам і танцамі.

У асенне-зімовы час «Нараўчанкі» і «Цаглінкі» прымалі ўдзел у музычных спатканнях, якія праходзілі кожны другі месяц, і знаёміліся з народнымі танцамі, такімі як «крыжачок», «лявоніха», «гапак» і «свіння ў рэпі».

Харысты знаёміліся з новымі песнямі аб Нараўчанскай гміне, такімі як «Семяноўская чайка» і «Мой астравок». Музыку да гэтых песень напісаў кіраўнік «Цаглінак» Мікалай Мяжэнны на словы аднаго члена «Нараўчанак».

Добра было б, каб культурныя польска-беларускія сувязі надалей існавалі. Нядаўна ў Нараўцы з'явілася каляровая брашура «Od Jana do Iwana».

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Канцэрты над возерам

У суботу, 6 чэрвеня гэтага года, ладзілі першы сёлетні канцэрт у прыгожым амфітэатры ў Старым Двары Нараўчанскай гміны на беразе Семяноўскага возера. Зараз даехаць сюды можна па асфальце. Сёлета пабудавалі яшчэ дзве дадатковыя аўтастаянкі. І едуць сюды адпачываць ахвотныя, перш-наперш гараджане.



„Арт-Пронар”



„Рэтра-бітс”

Мерапрыемства пачалося а гадзіне 18-й. Першы выступіў вакальна-інструментальны калектыў „Рэтрабітс” з Гайнаўкі і як другі „Арт-Пронар” з Нарвы. Выступы другога, больш вядомага слухачам, усім лепш спадабаліся.

Вечар быў цёплы, ціхі і спакойнае было возера. Па ім плавалі лодкі. Прыгожы быў захад усё яшчэ яркага сонца. Песні плылі далёка-далёка. Канцэрт прадаўжаўся яшчэ пасля змроку. Весела і прыемна было.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства арганізаваў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Канцэрты будуць адбывацца ў выхадныя на працягу ўсяго лета. Чарговы ўжо у суботу, 4 ліпеня гэтага года. У амфітэатры выступяць тры мастацкія калектывы: „Akcent”, „Ding Dong” і „Sonel”. Пачатак а гадзіне 18-й.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Адзінаццаць Чырвоных Шапачак



П'есу пра Чырвоную Шапачку на заканчэнне школьнага года вучні выпускнога — шостага класа Пачатковай школы № 4 у Беластоку ставяць не першы раз. Гэтая дынамічная і жартаўлівая смехадрама паводле вядомай казкі ў апрацоўцы настаўніцы беларускай мовы і выхавацелькі маладых беларусаў Аліны Ваўранюк заўжды карыстаецца непагаснай папулярнасцю, і кожны састаў выпускнікоў-акцёраў перакананы, што гэтая пастаноўка — у іх самая лепшая. І маюць рацыю! У кожнай ролі можна выказацца — ці будзеш адной з міжнародных чырвоных шапачак, ці няшчасным разгубленым ваўком, ці ўзброеным у вінтоўку цюцелька ў цюцельку як сапраўдная і якая на канец стрэліць і быццам бы заб'е няшчаснага і зусім нязлоснага ваўка, ці хорам, які нават у адной асобе трапна падвядзе падзеі якія адбываюцца на сцэне. "Сапраўднай" Чырвонай Шапачкай была Анюта Карнілюк, але дзесяць іншых былі не менш сапраўднымі, з рысамі характару і выгляду — амерыканская, і японская, і італьянская, і нямецкая, і расійская, і скандынаўская, і мексіканская, і афрыканская... І шатландская была, а гэта быў хлопец, вядома, у кільце-спадніцы. У такім квіпракво не толькі воўк не мог разабрацца! І бравы гарачыя былі, і ўзнагароды — за спектакль, і за плённую працу ў школе. Сумна, усё ж такі, расставацца...

(лук)

# РАЗУМНІК

*(узбекская казка)*

Жыў-быў адзін бацька і было ў яго многа сыноў. Аднойчы паклікаў ён да сябе сыноў, аддаў аднаму стралу і сказаў:

— Пералámі яе напалавіну і перадай брату.

Сын пераламаў стралу і падаў абломак брату. Той злажыў абломкі, пераламаў напалавіну і перадаў чатыры часткі трэцяму брату.

Трэці брат кажа:

— Бацька, няма ў мяне сілы, каб іх пераламаць!

Тады старэча падняўся і кажа:

— Бачыце, хлопцы, гэтая страла падобная на вас. Калі будзеце жыць асобна, кожны вас зломіць, пераможа. А калі будзеце жыць разам, у згодзе, тады вас не пераможа ніякая сіла і будзеце жыць у радасці і шчасці.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



# Пікнік на канец школьнага года

Канец навучальнага года ў беластоцкай Гімназіі № 7 адзначылі надта арыгінальна — наладзілі беларускі сямейны пікнік.

— Усё спрацавала, нават надвор'е, — адзначае настаўніца Альжбета Рудкоўская.

Матулі гімназістаў прыдбалі смачную яду. Калі ўжо ўсе набралі сілы, пачаліся спевы і гульні. Быў футбольны матч, моладзь хадзіла на падвойных лыжах і хадулях, наладзілі спаборніцтва па перацягванню каната, нават скакалі на скакалцы. Хлопцы, якія апошнім часам выйгралі спявацкія конкурсы, далі адмысловы канцэрт.

— Нават мне ўдалося пахадзіць на хадулях, — дадала спадарыня Альжбета. — Здаецца, усім пасмакаваў наш беларускі пікнік.

Пікнік быў наладжаны на грамадскіх пачатках. Прынёс ён шмат пазітыўнай энергіі і яшчэ больш аб'яднаў беларускую грамаду.

**(гак)**

# УВАГА КОНКУРС! № 26/27-15

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 12 ліпеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Сталі ля кадушкі**
**Белыя падушкі.**
**Крыламі лапочуць —**
**Выкупацца хочуць.**
**Г...**

**Падзівіцеся, які**
**збудавалі гмах звяркі.**
**Хто мурашнік,**
**хто хаціну,**
**а вось гэтыя —**
**плаціну*.**
**Мо падкажыце, сябры?**
**Працавалі тут...**
**Б....**

Н. А. Сторажава

* плаціна — tama

**Адказ на загадкі № 22-15: сарока, авечка. Узнагароду, запісную кніжачку, выйграў Януш Банькоўскі з Нарвы. Віншуем!**

# Свабода — што гэта такое?

## (Інтэрв'ю з трусам у клетцы)



**Сустрачанскія навіны:** — *Цябе называюць «Бацька». А чаму такая мянушка? У цябе многа дзяцей?*

**Трус**: — Так, у мяне многа дзяцей. Так многа, што не дам рады іх злічыць на сваіх пальцах.

**Сн:** — *То чаму ты адзінокі ў клетцы?*

**Т:** — Сяджу за кару. Таму што моцна пасварыўся з сям'ёй.

**Сн:** — *Ці ты хацеў бы вярнуцца да іх?*

**Т:** — Так, таму што яны маюць большую клетку.

**Сн:** — *Ці адчуваеш сябе свабодным? Што для цябе значыць свабода?*

**Т:** — Тут мне добра. Гаспадар клапоціцца пра мяне. Заўсёды маю траву і сена. Для мяне гэта свабода.

**Сн:** — *Ці больш любіш сена ці малачай?*

**Т:** — Я больш люблю малачай, таму што ён сакавіты.

**Сн:** — *Ці любіш сваіх гаспадароў?*

**Т:** — Вельмі, таму што яны мяне кормяць і даглядаюць.

**Сн:** — *А не баішся, што зробяць з цябе паштэт?*

**Т:** — Не, таму што я хатні трус.

**Сн:** — *Як сабе ўяўляеш жыццё па-за клеткай?*

**Т:** — Думаю, што такое жыццё цяжкае. Трэба самому клапаціцца пра сябе.

**Сн:** — *Ці любіш, калі цябе наведваюць людзі?*

**Т:** — Так, вельмі люблю.

**Сн:** — *А чаму?*

**Т:** — Таму што яны захапляюцца маёй прыгожасцю!

Інтэрв'ю пад кірункам ***рэд. Яўгена Вапы*** падрыхтавалі ***Наталля Васько, Оля Буслоўская, Клаўдзія Галінская, Уля Марчук, Агнешка Петручук, Міхась Сахарчук і рэд. Уля Шубзда.***

*Наталля ВАСЬКО*
*«Сустрачанскія навіны»*

### *Думкі труса*

*І зноў да мяне прыйшлі,*
*зноў мяне кормяць,*
*а я сяджу і грызу.*
*А я хацеў бы*
*выйсці на луг і пабегаць!*
*Скакаць і скакаць!*
*Так, каб ніхто не затрымаў,*
*Ніхто нічога не гаварыў.*
*Толькі глядзеў...*
*А я б скакаў!*
*І быў бы вольным...*




## Інтэрв'ю з каменем, сасной і трусом!

15 чэрвеня на Сустрэчы «Зоркі» прыехаў галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа. Ён вучыў нас як браць інтэрв'ю. У просты спосаб паказаў нам розніцы паміж маналогам, дыялогам, размовай і інтэрв'ю.

Мы з зацікаўленнем слухалі, калі госць чытаў нам паэзію «белавежцаў». Яна апісвае цудоўную прыроду — лясы, палі, рэкі, звяроў. Яна прыгожая і таемная. Але больш мы былі здзіўлены, калі даведаліся, што нам трэба ўзяць інтэрв'ю... каменя, сасны і труса!

Гэтая сустрэча была вельмі змястоўнай і паэтычнай. Мы многа даведаліся пра інтэрв'ю.

Клаўдзія Галінская і Наталля Васько — «Сустрачанскія навіны»

## Вершы Віктара Шведа

### Апраўдала матулю

Зрабіць трэба кампрэс доні,
Забалела вуха Зіне.
Алкаголь мы купім сёння
У суседнім магазіне.

Стаяць з бутэлькаю да касы
Трэба апраўдаць насілу:
— Не п'е гарэлкі мама наша,
Гэта для мяне купіла.

### Сродак ад хрэпу

Бацька з сынком родным
Пайшоў у аптэку,
Каб купіць там сродак
Ад страшнага хрэпу.

— У сне наша маці
Храпе так заўзята.
— Не трэба ілгаці,
Ты храпеш, мой тата!

# Польска-беларуская крыжаванка № 27-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23:**
Чарот, таз, но, баран, агарод, аматар, аратар. Жаба, загар, рама, апарат, нота, фон, дар, том.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Наталля Маркевіч, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Патрыцыя Лаўнічук, Алек Чарнецкі, Магда Пташынская** з Нараўкі, **Крыстыян Яцко** з Арэшкава, **Юля Шкляжэўская, Куба Алексяюк, Кася Станько** з Нарвы. Віншуем!

Świt
Data
Kwas
Stajnia
Duch
Wat
Tron
Ruta
Zuch
Trzy
Trasa
As
Królik
Och
Jan
Usta
Ach
Rynek

# «БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ» — кастынг (2)

У маніфесце, існуючай у цяперашняй праграмна-арганізацыйнай форме ад 2013 года мінскай «Арт-Сядзібы», чытаем: **«У Беларусі амаль не засталося месцаў, дзе можна было б пабачыць і пачуць незалежную беларускую культуру. Менавіта таму групай рамантыкаў была заснаваная «Арт-Сядзіба». За гэты час пляцоўка стала выспачкай беларускай мовы, музыкі, мастацтва і нефармальнай адукацыі. Бо галоўны прынцып «Арт-Сядзібы» — не дзяліць творцаў на сваіх і чужых — даваць прастору кожнаму».**

Яны арганізавалі некалькі дзясяткаў праектаў. У шэрагу выпадкаў яны былі вымушаны змяніць арандаваныя памяшканні, дзе выступае Зміцер Вайцюшкевіч, дзе паказвае спектаклі Свабодны тэатр (які пастаянна змяшчаецца пад Лонданам), прэзентуе свае кнігі Уладзімір Някляеў, выступаюць маладыя беларускія гурты і літаратары, праводзяць сустрэчы і прэзентацыі Саюз беларускіх пісьменнікаў, Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый або Беларуская асацыяцыя журналістаў. Цяпер яны рыхтуюць спектакль «Браніслаў Тарашкевіч» (падрабязней пра яго ідэю мы згадвалі ў папярэднім нумары).

У цяперашні час «Арт-Сядзібу» можна знайсці па адрасе праспект Незалежнасці 58 амаль насупраць помніка Якубу Коласу, на чацвёртым паверсе, уваходзячы знізу ў дзверы, над якімі вісіць шыльда «Гандлёвы цэнтр». У гэтай двухузроўневай прасторы на ніжэ можа змясціцца каля сарака крэсел. Наверсе — чатыры пісьмовыя сталы. У ніжняй частцы на адной са сцен, якія робяць выгляд галерэі, калі мы туды трапілі, віселі карціны Алеся Марачкіна, легендарнага мастака, дысідэнта, аднаго з заснавальнікаў і першага старшыні мастацкай суполкі «Пагоня», былога старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». У гэтай частцы, ля лесвіцы на паверх — крамка, а ў ёй футболкі, палатняныя торбы, значкі, паштоўкі, стужкі... — усё тое з беларускімі ўзорамі, толькі з элементамі беларускай сімволікі і толькі па-беларуску.





■ Рэпетыцыя «Амарокі» на фоне карцін Марачкіна

■ Крама «Арт-Сядзібы»

### Праекты ў Мінску і па-за ім

Калі мы ішлі па доўгім калідоры чацвёртага паверха гэтага будынка, мінаючы салоны прыгажосці і офісы розных адценняў кампаній, з аднаго з іх неслася песня расійскай кандыдаткі на мінулы фестываль «Еўрабачання» Паліны Гагарынай, якая бесперапынна транслюецца беларускімі радыёстанцыямі, значна больш, чым беларускага кандыдата на гэты фестываль — Юзары (Юрый Наўроцкі). Тым часам за дзвярыма «Арт-Сядзібы» можна пачуць гукі песні папулярнага не толькі ў Беларусі гурта «Амарока», адзінага які стварае амерыканскі рок па-беларуску, якога лідар — Дзмітрый Афанасенка (вакал, гітара) працуе ў «Арт-Сядзібе». Каманда мае праблемы з арганізацыяй канцэртаў у Беларусі, таму што ахапляе яе між іншым прэзідэнцкі ўказ аб «Пагрозе нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, маральнасці». «Амарока» ў «Арт-Сядзібе» мае якраз рэпетыцыю. Кіраўнік арганізацыі Павел Белавус пайшоў якраз па справах. Магчыма, у сувязі са зборам 200 тысяч долараў на пабудову сядзібы арганізацыі, а, можа, каб дапоўніць свой блог, які на старонцы «Арт-Сядзібы» вядуць таксама іншыя маладыя дзеячы беларушчыны, такія як Франак Вячорка, Станіслаў Пінчук ці Яўген Герасіменка. Свайго суразмоўцы Аляксея Сапрыкіна, спецыяліста па мерапрыемствах «Арт-Сядзібы», аднаго з задумшчыкаў спектакля «Браніслаў Тарашкевіч», мы пра гэта не пыталіся:

— У гэтым памяшканні мы з кастрычніка. З папярэдняй сядзібы нас выселілі. Спачатку мы стварылі тут невялікі магазінчык, каб мець грошы на дзейнасць, і дзіўна, ад пачатку ён добра функцыянуе. Пасля сарганізавалі «Дні вышыванкі», на якія запрасілі ўсіх. На першыя прыйшла тысяча дзвесце зацікаўленых, на другія ўжо пяць тысяч. Гэта было вялікае свята. Удзельнічалі ў ім і купцы, і музыкі, і праводзіліся лекцыі ды майстар-класы нацыянальнай татуіроўкі. Мы таксама падрыхтавалі акцыю «Беларуская стужка», падчас якой на працягу дзвюх-трох гадзін мы раздалі пяць кіламетраў такой стужкі на ўзор георгіеўскай. Звычайна яна прадаецца ў крамах, і робіцца на заводзе стужак у Магілёве.

Калі мы размаўлялі, у Мінску праціягваліся падрыхтоўкі да фестывалю беларускай татуіроўкі, якога «Арт-Сядзіба» з'яўлялася суарганізатарам. На вэб-сайце арганізацыі, у сваю чаргу, з'явіліся міні-альбом «Лікёры» рэпера Вожыка пасля яго музычнага перапынку ў 2011 годзе. Вядома, рэпуе ён па-беларуску, прытым востра. Намаўлялі ў той час да чацвёртай гульні — як яе назвалі — поп-квіза «**Varta**». Яе фінал адбыўся ў пачатку чэрвеня, а назва паходзіць ад яе лозунгу «Беларусам быць **VARTA!»**. Аляксей Сапрыкін патлумачыў нам:

— Прыйшоўшыя дзеляцца на каманды і адказваюць — хто хутчэй — на пытанні, звязаныя з беларускай мовай, беларускай гісторыяй, культурай, грамадствам і падобныя.

Адзначыў пры нагодзе:

— Сітуацыя з беларушчынай іншая ў Мінску, і яшчэ іншая ў апошніх гарадах. Таму мы стараемся, выйсці са сваімі праектамі за межы Мінска. «Дзень вышыванкі» правялі таксама ў Бабруйску. У канцы студзеня ў Баранавічах мы сарганізавалі канцэрт. Паша з лекцыямі аб «Арт-Сядзібе» быў у Віцебску і Магілёве. Паклікалі мы школу арт-менеджараў, дзе вучыліся як арганізаваць беларускія праекты. Марым аб тым, каб таксама з ёю паездзіць па ўсёй краіне, але пакуль не даем рады; працуе ў нас усяго пяць чалавек.

### Лавіць эмоцыі

На тры праслуханні да спектакля «Браніслаў Тарашкевіч», аб якіх было паведамлена ў інтэрнэце, прыходзіла па 5-20 асоб усіх узростаў і розных прафесій. Аляксей Сапрыкін:

— Сярод іх былі і такія, з якімі рэжысёр і я ўжо працавалі пры іншых праектах, але таксама людзі прыходзілі першы раз, якім было проста цікава.

Мы трапілі на апошні кастынг. Рэжысёр спектакля і галоўны аўтар тэксту Эльдар Бякіраў і Аляксей селі за сталом у ніжняй частцы сядзібы.

— Мой бацька беларус, маці ўкраінка, — прызналася ўжо ў пачатку першая з авхотных зайграць у спектаклі, прафесійная акторка, якая ад нядаўняга часу пасля заканчэння акцёрскай школы іграе ў мінскім Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры.

Гучаць пытанні: з якім рэжысёрам хацела б працаваць, якую ролю іграць? Пералічыла і прадэкламавала верш «Межы» Максіма Багдановіча:

— (...) Нязмерны вольныя прасторы / Святой зямлі, — а чалавек / Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век.... / Хаваўся ў іх, як ліс у норы, / І жыў пужліва сам — адзін, / Дрыжачы, як лісцё асін, / Зласлівы, бессардэчны, хціві, / Такі здрадлівы, / Для ўсіх чужы, зусім чужы... .

Іншыя кандыдаты ўслухаліся ў гэты верш, ловячы эмоцыі, якія выклікалі ў іх словы аднаго з класікаў беларускай літаратуры. Дэкламацыю канкурэнты прынялі апладысментамі. Эльдар і Аляксей паабяцалі — што пазвоняць. Адна з чарговых кандыдатак, 18-гадовая Адарка, вывучае медыцыну. Раней яна вучылася ў Вільні:

— Я ведаю літоўскую мову. На літоўскія спектаклі не хадзіла, лічыла лепшымі спектаклі тамашняга рускага тэатра. Вельмі спадабаўся мне «Пане каханку», які прывёз у Вільню мінскі тэатр імя Горкага (п'еса беларускага драматурга Андрэя Курэйчыка ў рэжысуры Сяргея Кавальчыка — М. Х.).

— Як заставацца незалежным, калі з кожнага боку цябе ціснуць? — спытаўся нечакана рэжысёр.

Пасля моманту паўзы Адарка адказала:

— Трэба мець свае прынцыпы і проста прытрымлівацца іх.

Яе аднагодка Ганна вывучае ў Мінскім універсітэце сацыяльную камунікацыю. Яна расказала пра свае беларускамоўныя тэатральныя зацікаўленні:

— Вельмі люблю Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. Мне спадабаліся там п'есы па Караткевічу і «Адвечная песня» паводле Купалы.

— А ты бачыла «Мабыць»? — пыталіся «экзаменатары» аб адной з апошніх пастановак гэтага беларускамоўнага тэатра, пабудаванай на рэальных гутарках з жыхарамі Беларусі, між іншым, пра беларушчыну.

— Не, — прызналася са шкадаваннем.

### Кранальная шчырасць

Рашучая Вольга ў мінулым годзе скончыла ва Універсітэце культуры і мастацтваў тэатралогію. Зараз яна менеджар па продажу. У пачатку, як усе, пералічвала мовы, якімі валодае. Чарговасць — як здаецца — не без значэння:

— Я размаўляю па-руску, па-беларуску, па-англійску. Я ненавіджу сваю працу. Жыву тэатрам. Езджу ў асноўным глядзець спектаклі ў Маскву і Санкт-Пецярбург.

— Чаму? — трохі здзіўлены былі вядучыя кастынг.

— Таму што гэта тэатральныя цэнтры і такіх тэатраў, на гэтым узроўні, у Мінску няма.

26-гадовы Раман працуе інфарматыкам.

— Чаму ты прыйшоў на гэтае праслухоўванне? — прагучала адно са стандартных пытанняў.

— Таму, што спектакль будзе на беларускай мове.

Мажны Ігар, 25 гадоў, прадставіў сябе, як іншыя, па-беларуску:

— Я нарадзіўся ў Магдэбургу ў Германіі і жыў там, але і ва Украіне. Я вывучаў эканоміку ў Мінску, але больш не вучуся. Цяпер нідзе я не працую, але з панядзелка буду менеджарам продажу...

У нейкі момант сваёй прэзентацыі Ігар папрасіў:

— Ці магу я перайсці на рускую, бо мне, усё ж, па-беларуску занадта складана?

І зараз пасля ўсхваляваў шчырасцю:

— Два разы я быў у тэатры. На чым, нават не памятаю, але памятаю, што гэта было цікава, таму што жывое. На самой справе, я шукаю таго, хто я, і таму я прыйшоў сюды. Можа, тут знайду сваю ідэнтычнасць. Я хачу займацца тым, што дае мне радасць. Я хацеў бы ў гэтым спектаклі зайграць кагосьці, хто змагаецца з самім сабою.

— Што зрабіць, каб уставаць кожны дзень і бегаць? — спыталіся ў яго Эльдар і Аляксей.

Ігар адказаў коратка:

— Пакласці перад сабой мэту, колькі кіламетраў маеш прабегчы і за які час.

— А калі ў цябе пахмелле?

— Тады не ставіць перад сабою мэты.

Пасля кастынгу, зыходзячы з Эльдарам і Аляксеем у метро, я ўспомніў, што не спытаўся загадзя, калі будзе прэм'ера. Аляксей, злёгку ўсміхаючыся:

— Мы не ведаем дакладна калі. Плануем на канец лета — пачатак восені.

Дзе «Браніслаў Тарашкевіч» будзе паказаны — пакуль не вядома.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Незвычайная мясцовасць

**Каля паўгода таму, будучы ў наваколлі Мордаў, што ў дваццаці кіламетрах на ўсход ад Седльцаў, здагадваўся я пра этымалогію назвы мястэчка: „Калісь-калісь чытаў я, што назва гарадка пайшла ад найдаўнейшых пасяленцаў, якія прывандравалі сюды аж з далёкай сённяшняй Мардовіі. Але мяне неяк чапляецца іншая думка: суседнія мясцовасці Чаламыі і Нямойкі атрымалі „гігіенічныя” назвы; магчыма, што і Морды ўзялі сваё найменне па гігіенічна-эстэтычных прадпасылках”...**



Касцёл у Галублі

Але ж вось падаючыся ў тое наваколле цяпер, заглянуў я на інфармацыйную старонку прыхопленай з сабою карты, а там чарговая этымалагічная здагадка: „Oryginalna nazwa miasta nie wiąże się z obelżywym określeniem twarzy, lecz ze słowem *mord*, upamiętniając w ten sposób zapewne bitwę stoczoną przez Bolesława Wstydliwego z Jaćwingami w 1264 r., zakończoną ponoć wymordowaniem nieprzyjaciół”. Да гэтага дадам яшчэ адну цікавінку пра мястэчка — працаваў там менавіта бровар, які сваю вытворчасць захвальваў лозунгам „Pijcie piwo Mordy Siedleckie”, які выклікаў такую нянавісць у півошнікаў у суседнім гарадскім цэнтры, што давялося не толькі адмяніць назву, але і зусім спыніць вытворчасць залацістага пахмелля...

Паўгода таму не ўдалося мне зайсці ў парафіяльную вёску Чаламыі, што ў пяці кіламетрах на поўнач ад Мордаў. Цяпер я цвёрда пашагаў туды. Захацелася мне пабачыць, як выглядае касцёл, які быў узведзены на схіле ўніяцкага там перыяду, значыць у 1850-х гадах. Цікавіла мяне, ці будынак захаваў нейкія візантыйскія прыметы, бо ж у 1875-1915 гг. была там царква. Па сутнасці з усходняй спадчыны захавалася там толькі абшырная блендавая арка над галоўным уваходам, бо ж арачныя аконныя і дзвярныя праёмы больш універсальныя ў сакральнай архітэктуры. З Чаламыяў адправіўся я не проста ў намечаную маёй галоўнай мэтай Галублю, але крыху абыходам, цераз тамашнія Крынкі. Такім чынам прайшоў я побач чаламыйскіх могілак, дзе на першых намагільніках красавалася прозвішча Захарчук...

Згаданыя Крынкі, гэта зараз невялікая мясцовасць, аднак з багата выглядаючымі мураванкамі. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага згадваў, што там было 18 хат і 105 душ на тэрыторыі 585 моргаў. У гэтым жа слоўніку так названых мясцовасцей усяго толькі сем, з іх ліку пяць у абшары паміж Беластокам і Смаленскам. Значыць і гэтыя каля Седльцаў маглі ўзяць сваю назву з усходу. На адным з панадворкаў пабачыў я модныя цяпер гіпсавыя фігуркі, у ліку якіх запрэжка з конікам у хамуце і аглоблях; апрача тапанімії чарговы ўсходні след...

У двух кіламетрах ад Крынак парафіяльная мясцовасць Галубля, па-польску **Hołubla**. А гэта ж не што іншае, як польская назва аглоблі. І зноў тая назва падказвае пра радавод тамашняга насельніцтва. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1882 года: „Hołubla, wieś, pow. siedlecki, gm. Krześlin, par. Paprotnia. Jest tu cerkiew dla ludności rusińskiej, b. par. unicka, którą erygował r. 1545 ks. Bogdan Sapieha”. У тапаграфічным плане мясцовасць складаецца з дзвюх паралельных вуліц, быццам аглобляў. Хто ведае, ці менавіта аглоблі не сыгралі нейкай ролі ў заснаванні і планіроўцы мясцовасці, аднак на след нейкай легенды пра заснаванне вёскі не ўдалося мне напароцца.

Сядлецкі тыднёвік „Echo Podlaskie” так сем гадоў таму пісаў пра Галублю: „Ciekawych historii o Hołubli można opowiedzieć kilka, a każda jest ciekawsza od poprzedniej”. І гэта праўда, аднак найцікавейшыя памешчаны ў вясковым сайце. Так-так — вёска Галубля мае свой партал у інтэрнэце. Вось фрагмент адтуль пра гісторыю наваколля вёскі: „Zachowało się podanie ludowe, że w czasie jednej z pierwszych wypraw doszło do spotkania sił polskich i jadźwińskich, a w miejscu stoczonej walki powstała osada Wojnów. Ostatnia faza bitwy toczyła się opodal, gdzie w zaciekłej rzezi wyginęli Jadźwingowie niemal do szczętu, a na tym miejscu powstała osada Mordy. Zmęczone walką rycerstwo powróciło do obozu na lekkim piaszczystym wzniesieniu i tam obmywało w źródłach uznojone czoła, powstała zaś osada otrzymała nazwę Czołomyje. Już po walce pochwycono jeszcze kilkunastu Jadźwingów i tych nie żywiono, ale poza obozowiskiem powieszono, a teren został nazwany Czepielin. Brak jest źródeł geograficzno-historycznych, aby bezpośrednio dowiedzieć się o początkach wsi Hołubla. Należy stwierdzić, że historia wsi jest ściśle związana z powstaniem cerkwi”.

Пра царкву: „Ks. Piotr Aleksandrowicz w książce „Diecezja Siedlecka czyli Podlaska” podaje, że cerkiew w Hołubli powstała w roku 1525, jako najpierwsza w tym regionie, ale w notatce do akt parafialnych powstanie parafii podaje się w 1545 roku: *Cerkiew i parafia we wsi Hołubla erygowane były przez księcia Bogdana Sapiehę dnia 8 stycznia 1545 roku. Erekcja wniesiona do akt Ziemi Drohickiej w 1552 roku nadała na własność tejże cerkwi gruntu morgów 34 prętów 225. Cerkiew hołublańska pod tytułem Narodzenia Najświętszej Marii Panny zbudowana z drzewa, gontami kryta, z podłogą i sufitem z desek. Dzwonnica na czterech słupach, gontami pobita, z krzyżem drewnianym na szczycie, z dwoma dzwonami wewnątrz. Do parafii należy tylko jedna wieś Hołubla. Około 1850 roku liczyła 172 osoby*”. І далей: „Parafia w Hołubli powstała jako prawosławna i dopiero w pół wieku później stała się unicką, kiedy to zawarta została Unia Brzeska w 1596 roku i diecezja Chełmska w całości przystąpiła do unii. Rozpatrując zasięg diecezji Chełmskiej, możemy zauważyć, że Hołubla stanowiła enklawę ludności ruskiej w otoczeniu żywiołu zaściankowej szlachty podlaskiej, ponieważ najbliższe parafie unickie leżały w dużej odległości na północ: Szkopy, Rogów, Czekanów, Sokołów. Zagadkę stanowią wioski należące do parafii unickiej w Czołomyjach, która powstała znacznie później, bo w 1706 roku. Rodzi się pytanie, czy dopiero w tym czasie folwarki zostały zasiedlone ludnością rusińską, czy te miejscowości (Czepielin, Ogrodniki, Czołomyje, Stok Ruski i Wyczółki) pierwotnie należały do parafii w Hołubli, nie ma bowiem żadnej wzmianki by przed Czołomyjami istniała cerkiew w którejś z tych wiosek. Należy więc przypuszczać, że do parafii Hołubla należały także i te wioski. W samej Hołubli obok Unitów byli także i łacinnicy. Parafia Hołubla była bardzo nieliczna, miała zaledwie 200 dusz unickich, właściwie obejmowała tylko jedną wioskę — 26 gospodarzy, z których 7 domów było łacińskich, więc pozostaje 19 domów i rodzin unickich”.

„Echo Podlaskie”: „Około 1545 r. w świątyni został umieszczony obraz Matki Bożej, sprowadzony ze wschodu przez księcia Sapiehę. Jest to obraz o wymiarach 120 x 80 cm, namalowany na desce mocno nasyconej żywicą, dzięki czemu przetrwał w dobrym stanie kilka stuleci. Wizerunek Maryi, nieznanego autorstwa, zdradza cechy malarstwa bizantyjskiego. Od dawna otoczony jest szczególnym kultem wiernych, którzy przybywają przed oblicze Pani z Hołubli, by modlić się o jej wstawiennictwo u Boga”.

У 1867 годзе пачалося жорсткае вяртанне галублянскіх уніятаў у праваслаўе, якога апагей выпаў восем гадоў пазней. „Prawie wszyscy mężczyźni z Hołubli zostali wywiezieni w głąb Rosji, większość na Syberię. Śmiercią męczeńską zmarli: Jan Łopaciuk, Teodor Wojciuk, Mikołaj Klimiuk, Jan Lis, Paweł Wilgórski, Paweł Chodowiec, Michał Andrzejuk, Jakub Jerominiak, Stefan Karabin, Karol Radczuk, Wawrzyniec Łopaciuk, Wincenty Chodowiec, Paweł Chodowiec, Jan Borsuk, Jan Chodowiec, Mateusz Chodowiec, Józef Ogrodniczuk, Andrzej Klimiuk, Jan Klimiuk, Piotr Zabuski, Mateusz Chodowiec, Wawrzyniec Wojciuk, Marcin Wojciuk, Tomasz Szelech, Konstanty Szelech, Jan Trochimiuk, Szymon Jaszczuk, Piotr Wołosiuk, Jan Bokowiec, Kazimierz Chodowiec, Jan Ogrodniczuk”. Шмат, як на дзвесце ўсіх душ. „W Hołubli pop prawosławny oczekiwał, że następne pokolenia powoli nawykną. Czekał na próżno, nikt dobrowolnie do cerkwi nie przychodził. Ostatecznie czując się niepewny, przeniósł się do Czołomyj, ta wioska uchodziła bowiem za najbardziej sprawosławioną”.

„Echo Podlaskie”: „Obecny murowany kościół został zbudowany... z gruzów zbombardowanych Siedlec. A wszystko dzięki ówczesnemu proboszczowi ks. Stanisławowi Pielasie, który zaproponował hitlerowcom, by pozwolili na to mieszkańcom. Początkowo pomysł został wyśmiany, ale argument, że rolnicy, zamiast partyzantką, zajmą się budową, zwyciężył. W latach 1940-1942 wzniesiono świątynię ku czci Maryi jako wotum z prośbą o odwrócenie hitlerowskiej okupacji”.

Незвычайная гэта вёска Галубля. Па скрыжаванні паўночнай „аглоблі”, вуліцы Падляшскіх уніятаў, з вулачкай у напрамку касцёла, вуліцай ксяндза Пелясы, стаіць крыж-помнік, прысвечаны трагічнаму супрацьстаянню маскоўскаму насіллю. На помніку толькі пяць прозвішчаў, бо ж, як падае вясковы партал: „Dużo zmarło, tylko nikt ich nie zaliczał do męczenników i zapisał do pamięci”.

З Галублі падаюся ў Седльцы, а больш дакладна — у напрамку сядлецкага чыгуначнага вакзала. Колькі ж то разоў прыходзілася мне круціцца па тым вакзале на працягу дзясятка гадоў, пачынаючы нейкіх пяцьдзясят гадоў таму. У той час, запар з электрыфікацыяй чыгункі, быў там пабудаваны падземны тунэль з вакзальнага будынка на пероны. Насупраць вакзала дымілі яшчэ паравозы перад тамашнім дэпо. Зараз паравозаў ужо няма, хаця яшчэ захавалася „круцёлка”, якая тыя паравозы кіравала ў розныя адсекі майстэрні. Ды і пабудаванага калісь тунэля ўжо таксама няма. Акурат адбываецца перабудова сядлецкага чыгуначнага вакзала. Працуе толькі адзін перон, між ім і вакзальным будынкам неблагі катлаван. Акурат утрамбоўваецца месца па ранейшым тунэлі, а ў канцы новага перона заліваюцца два новыя падземныя тунэлі. Чаму акурат паўстаюць два новыя тунэлі заміж аднаго, і то даволі выгаднага, недаўмяваю. Хто ведае, ці гэта не нейкі футурыстычны ход... Цяпер жа, калі машыны забіраюць людзям вытворчы занятак, трэба вызваленым ад працы носьбітам калорый выдумліваць розныя новыя віды актыўнасці, напрыклад новыя спартыўныя спаборніцтвы. Цяпер модны высотны бег па лесвіцы, і мо ў дадатак да гэтага нехта прыдумае і кругавы бег па перонах ды вакзальных тунэлях. Хто ведае — можа і Седльцы незвычайныя?..

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




Эпітафія на помніку галублянскім уніятам

# Аршанскі дзіцячы хор



**Размова з Валянцінай КАРЖЫЦКАЙ, загадчыцай Узорнага дзіцячага хору „Cantare” з Оршы.**

**— Да размовы з Вамі я гутарыў з дзвюма дырыжоркамі хароў з Беларусі, ад якіх даведаўся, што ў іх польскія карані. Ці ў Вас таксама?**

— Я — беларуска. Мая мама беларуска, тата беларус, і дзяды і бабулькі ўсе беларусы. Спявалі мае бабулі, якіх пасля Рэвалюцыі, калі ствараўся народны хор Пятніцкага і шукалі таленавітую моладзь, запрашалі ў той хор; іх не пусцілі бацькі. Бабуля і ейная сястра спявалі ў сельскай царкве. Былі яны самавучкамі, не мелі музычнай адукацыі. Калі мне было пятнаццаць гадоў, з бабуляй і ейнай сястрой мы вельмі лёгка спявалі трохгалоссе. І ўсё было вельмі добра, і вельмі чыста выконвалі і народную музыку, і царкоўныя спевы крышачку.

**— Гэтая сямейная традыцыя прывяла Вас у музычную адукацыю?**

— Мама, крышку з рамянём, настаўляла. Бо гэта ж праца. Займацца давялося з другога класа: фартэпіяна, плюс спевы, плюс хор. Пасля чатыры гады музычнага вучылішча, пазней, завочна, універсітэт.

**— Дзе пражывалі Ваша бабуля і яе сястра, у якой мясцовасці?**

— У Александрыі, вёсцы маіх дзеда з бабуляй па маме, у дзесяці кіламетрах ад Шклова Магілёўскай вобласці.

**— Вы адукацыю здабывалі ў Мінску?**

— Спачатку ў Магілёве, а пасля ў мінскім універсітэце культуры.

**— А як Вы трапілі ў Оршу?**

— Я нарадзілася там. І вярнулася да бацькоў.

**— Вы там працавалі ў школе ці можа ў нейкім доме культуры?**

— У Школе мастацтваў № 1.

**— Увесь час з дзяцьмі?**

— Так.

**— У фестывальным буклеце напісана, што Ваш ансамбль „Cantare” выконвае розную музыку: і свецкую, і духоўную. Вы сюды прыехалі з сакральнай музыкай. Ці можаце мне сказаць, якую менавіта сакральную музыку выконвае Ваш хор?**

— Раней спявалі музыку заходніх кампазітараў, пасля ў мяне быў невялічкі перапынак, калі нарадзілася дзіця. А затым трэба было нанава зладжваць хор, каб вярнуць узровень. Не вярнулі яшчэ таго, што было раней; раней, мабыць, спявалі лепей. Цяпер маем у рэпертуары класікаў царкоўнай музыкі. Але спяваем і сучасныя творы Міхаіла Гаголіна. Прабавалі Твардоўскага „Алілуя”, але там шасцігалоссе, а ў нас маленькія дзеці і ў іх недастатковы вакальны рэсурс. З заходніх кампазітараў спявалі нямецкага кампазітара Сорга, спявалі Моцарта, Бетховена.

**— А італьянскіх кампазітараў?**

— Не прабавалі.

**— Радзімых кампазітараў, напрыклад, Манюшкі?**

— Не ўдаецца здабыць нот. Дарэчы, ёсць праблема з рэпертуарам. Хацелася б нешта роднае спяваць. Песні Манюшкі мы спяваем, але гэта не сакральная музыка.

**— Вы ўжо прымалі ўдзел у нашым фестывалі. Ці нейкі набытак ад таго ўдзелу ў Вас астаўся?**

— Былі мы тут у 2004 годзе і быў гэта першы фестываль, на якім нас ацанілі — мы сталі лаўрэатамі другой прэміі. Удалося вельмі добра выступіць. Пасля быў маскоўскі фестываль „Дні славянскай пісьменнасці і культуры”, быў мінскі фестываль духоўнай музыкі, спявалі на французскім фестывалі „Хрустальная піраміда”.

**— У згаданай інфармацыі пра хор „Cantare” ёсць згадка, што выконваеце і народную музыку; музыку якіх народаў?**

— Перш за ўсё беларускую. Прабуем таксама спяваць рускія і ўкраінскія народныя песні. Але найбольшы ў нас націск на духоўную музыку.

**— Ці толькі хорам „Cantare” займаецеся?**

— У школе я працую загадчыцай харавога аддзялення. У нас вялікае аддзяленне, ёсць ансамблі, ёсць салісты. Салісты больш займаюцца эстраднай музыкай, гэта больш запатрабавана; я сама спяваю ў эстрадным жаночым квартэце. Хачу спяваць у царкве; мяне ўжо запрасілі, толькі не было часу гэтую задуму здзейсніць.

**— Ці часта выступаеце навонкі Оршы?**

— Выступаем у абласных гарадах. У Магілёве кожны год у фестывалі, у нашым абласным Віцебску, раней у Мінск ездзілі. Зараз мы адбудоўваем свой узровень, таму Мінск намечваем на будучыню.

**— У Мінск трэба прабіцца.**

— А тут у нас такое першае сур'ёзнае выступленне. Бацькі ўклалі свае сродкі ў нашу работу, каб мы здолелі сюды прыехаць. Давялося патраціць шмат сіл для гэтай справы, таму што трэба было ўсім, літаральна ад пачатку да канца, заняцца. Гэта і арганізацыя рэпетыцый, і падборка праграмы, і арганізацыя выезду, афармленне дакументаў, і ўсё такое.

**— Гэта пра канцэрты ў Беларусі і Польшчы. А ці кіруеце сваю ўвагу на іншыя напрамкі?**

— Былі ў Маскве. У наступным годзе збіраемся прабіцца ў Санкт-Пецярбург; туды, аднак, даволі складаная кваліфікацыя. Усё ж такі думаю, што гэты фестываль будзе добрым штуршком у станоўчым напрамку.

**— Дзякую Вам за прыезд да нас і жадаю далейшых поспехаў.**

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**




Іншым разам бывае карысным наведаць вясковы музей. На першы погляд, там не можа быць нічога цікавага, напрыклад, тых рэдкіх экспанатаў, якія звычайна знаходзяцца ў музеях вялікіх гарадоў. Гэта натуральна, бо вялікія музеі наведвае большая колькасць людзей, таму і паказаць ім варта нешта больш рэдкае і своеасаблівае. Але ў вясковым музеі, у адрозненні ад гарадскога, часам бывае цяжка адразу асэнсаваць, дзе канчаецца сабраная ў ім даўніна і пачынаецца сённяшняя рэчаіснасць. Напэўна, у гэтым і заключаецца найвялікшая адметнасць і прыцягальная сіла вясковага музея.

Натуральна, такія пачуцці могуць узнікнуць толькі тады, калі фізічна наведваеш вясковы музей, які звычайна знаходзіцца ў простай па выглядзе хаце. Падчас віртуальнага наведвання, калі праглядаеш размешчаныя на сайце фотаздымкі, такога ўражання не ўзнікае, але можа ўзнікнуць жаданне пазнаёміцца з музеем у рэальнасці. Як, напрыклад, пры наведванні сайта Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея, што знаходзіцца ў вёсцы Гудзевічы на Гарадзеншчыне.

Музейны сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.gudmuz.by**. Выява першай старонкі, нават калі яшчэ не прачытаеш назву сайта, адразу дае зразумець — ты там, дзе распавядаецца пра вясковую даўніну. Магчыма, гэта з-за таго, што асноўны колеравы фон выяўлення карычневы, стылізаваны пад дрэва.

На галоўнай старонцы сайта ў вочы адразу кідаюцца вялікія па памерах фотаздымкі, якія займаюць ледзь не ўсё выяўленне і якія да таго ж яшчэ можна павялічваць. На іх мы можам пабачыць тое, што знаходзіцца ўнутры і звонку музея — старыя сялянскія прылады для штодзённай працы і хату, дзе ўласна і месціцца музей.

„Установа культуры «Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей» створана на базе школьнага літаратурна-краязнаўчага музея, які ў сваю чаргу арганізаваў былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры Белакоз Алесь Мікалаевіч. Школьны музей прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта яшчэ тады дзеці пад кіраўніцтвам Белакоза Алеся Мікалаевіча пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам і інш. Назбіралася многа матэрыялаў і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей”, — распавядаецца пра пачатак стварэння музея на старонцы „Пра нас”.

Згодна з пададзенай там інфармацыяй, за апошнія 20 гадоў музей „прырос” шэрагам залаў, у прыватнасці „Народная медыцына”, „Лён і народнае ткацтва”. „У 2002 годзе адчынілася зала «Практычнага ткацтва», дзе размясціліся трое дзеючых вялікіх кроснаў, на якіх супрацоўніцы музея ткуць прыгожыя падвойныя дываны, посцілкі, абрусы, ручнікі, сурвэткі. На маленькіх ручных кроснах ткуць удзельнікі ткацкага гуртка”, — сцвярджаецца на сайце музея.

Больш падрабязна пра экспанаты музея можна даведацца, пабачыўшы іх на старонцы „Галерэя”. А вось рубрыка „Навіны”, па ўсім відаць, дарма носіць такую назву, бо нічога асабліва новага ў адрозненні ад іншых рубрык, тым больш пазначанага датамі, там даведацца немагчыма.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Акадэмік з вялікай літары

# 90 гадоў з дня нараджэння Юрыя Астроўскага

Дзеяч беларускай навукі, таленавіты біяхімік Юрый Астроўскі нарадзіўся 29 чэрвеня 1925 г. у Мінску. Яго дзяцінства і юнацтва прайшлі менавіта ў гэтым горадзе. У 1941 г. Астроўскі скончыў сярэднюю школу. У час фашыстоўскай акупацыі знаходзіўся разам з сям'ёй у Слоніме. Пасля прыходу савецкай улады ў 1944 г. быў прызваны на службу ў савецкую армію. У 1945 г. паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе. У гэты ж час быў арыштаваны яго бацька. З-за гэтага Астроўскага выключылі з ліку курсантаў акадэміі. Такім чынам вайскоўцам ён не стаў, але можа і да лепшага. Пазней Юрый Астроўскі паступіў у Мінскі медыцынскі інстытут, дзе вельмі актыўна прымаў удзел у дзейнасці студэнцкага навуковага таварыства і прафесійна займаўся біяхімічным кірункам медыцынскай навукі. Скончыў медыцынскі інстытут у 1950 г.

У гэтым жа годзе Астроўскі быў накіраваны на працу ў Полацк, дзе стаў загадчыкам аддзела і лабараторыі мясцовай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі. З 1956 г. працаваў асістэнтам кафедры біяхіміі Віцебскага медыцынскага інстытута. У 1959 г. Юрый Астроўскі пераязджае ў Гродна. Менавіта ў горадзе над Нёманам прайшоў найбольш плённы перыяд сваёй навуковай дзейнасці. Спачатку быў загадчыкам кафедры біяхіміі Гродзенскага медыцынскага інстытута, з 1975 г. — загадчыкам аддзела рэгуляцыі абмену рэчываў Акадэміі навук БССР, а з 1985 г. — дырэктарам Інстытута біяхіміі АН, які тады быў створаны ў Гродне. Менавіта ў гэтым акадэмічным асяродку сфармаваўся калектыў навукоўцаў-вальнадумцаў, многія з якіх выступілі заснавальнікамі легендарнай грамадскай з'явы ў горадзе — клуба „Паходня”. Сам Астроўскі неаднаразова выступаў на пасяджэннях культурна-асветніцкага клуба з навуковымі, часам сенсацыйнымі паведамленнямі. Ягоныя публіцыстычныя артыкулы выклікалі шырокі грамадскі рэзананс і дыскусіі.

Навуковыя інтарэсы і працы Юрыя Астроўскага датычылі галіны вітаміналогіі, рэгуляцыі абмену рэчываў і шэрагу кірункаў клінічнай біяхіміі (наркалогіі, анкалогіі). Астроўскім была створана арыгінальная канцэпцыя развіцця алкагалізму, якая давала перспектывы лячэння гэтай хваробы. Была вывучана прырода цэнтраў і груповак на бялку і ў малекуле тыяміну, сфармуляваныя асноўныя палажэнні, што абгрунтавалі рацыянальнае прымяненне ў медыцыне антывітамінаў. Агулам Астроўскі апублікаваў каля 500 навуковых прац, у тым ліку 9 манаграфій, запатэнтаваў 15 вынаходніцтваў. Быў членам-карэспандэнтам АН Беларусі, заслужаным дзеячам навукі.

Разам з тым Юрый Астроўскі быў актыўным сябрам Таварыства беларускай мовы, уваходзіў у гарадскую раду арганізацыі. Калі пачалася дэмакратызацыя і бурлівая палітычная дзейнасць, Астроўскі вылучаўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, але з-за „падводных плыняў” быў змушаны зняць сваю кандыдатуру. У канцы жыцця Юрый Астроўскі пераехаў у Мінск, дзе неўзабаве памёр. Не стала гэтага выдатнага і таленавітага вучонага ў апошні дзень 1991 г. — 31 снежня. Пераезд у Мінск кепска адбіваецца на гарадзенскіх дзеячах. Нешта падобнае здарылася і з Міхасём Ткачовым, які вельмі нядоўга пажыў у сталіцы.

Пахаваны Юрый Астроўскі ў Гродне на могілках па праспекце Касманаўтаў. На магіле сціплы помнік з эпітафіяй па-беларуску. У спадчыну акадэмік пакінуў не толькі навуковыя працы, але і вершы, нататкі, эсэ, якія былі выдадзены пасля смерці навукоўца.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Конкурс: «Мы ёсць, таму што яны вярнуліся»

Пад такім загалоўкам Згуртаванне «OrthNet» у супрацоўніцтве з сайтам «biezenstwo.pl» аб'явіла конкурс для патомкаў бежанцаў. Запрошаны да яго дзеці, моладзь і дарослыя для адкрывання сямейнай гісторыі часу Першай сусветнай вайны, стварэння аповесці аб ёй і дзяленнем ёй з іншымі. Арганізатарам залежыць на вяртанні памяці аб бежанстве 1915 года — адной з самых важных падзей на землях Падляшша і Холмшчыны сучаснага часу, аб якой да нядаўна не ўспаміналі ў падручніках.

Трэба пазнаць сямейную гісторыю — паразмаўляць са сваякамі, суседзямі, паслухаць іх успаміны, пашукаць памятак, здымкаў, дакументаў і г.д. Пасля, на падставе сабраных матэрыялаў, стварыць аповед аб лёсах сваёй сям'і з часу бежанства. Форма таго аповеду залежыць ад задумы ўдзельніка. Можна зняць фільм, напісаць апавяданне, эсэ, тэатральную п'есу ці верш, зрабіць прэзентацыю здымкаў ці тэкстава-здымачнага матэрыялу, намаляваць карціну, паставіць спектакль і г.д. Праца мае быць цікавая і зразумелая.

Працы можна падаваць у трох індывідуальных узроставых катэгорыях: наймалодшыя да 16 гадоў, моладзь 16-26 гадоў, дарослыя, а таксама ў групавой катэгорыі: сям'я, клас, вёска, гурток Брацтва, гмінныя і павятовыя цэнтры культуры (тады аповед павінен датычыць гісторыі групы або продка аднаго з членаў групы).

Працу ў тэрміне да **15 ліпеня 2015 г.** трэба выслаць на адрас **biezenstwo@cerkiew.pl** або прынесці яе ў сядзібу згуртавання (15-420 Беласток, вул. св. Мікалая, 3).

Больш інфармацыі на сайце конкурсу:
**www.konkurs.biezenstwo.pl**



## На Купалле

**На Купалле ў Белавежы 4 ліпеня (21:00) у Белавежскі амфітэатр** запрашаюць Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Белавежскі асяродак культуры. У праграме: купальскі карагод, канцэрт у выканані калектываў з Польшчы і Беларусі, абрадавая частка і забава.

**На Купальскую ноч 11 ліпеня (19:45) у амфітэатр у Нараўцы** запрашаюць Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. У праграме: выступленні «Бабінага лета» з Пружан, «Нараўчанак» з Нараўкі, «Арт-Пронару» з Нарвы, «Цаглінак» са Старога Ляўковка, хору «Ружаны» з Пружан, Беларускага музычнага тэатра «Рада» з Гродна, конкурсы, пусканне вянкоў, палаючыя факелы, феерверкі ды забава з гуртом «Томі М.».



## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую калгасную прыказку.

1. оперная песня = 3 _ 37 _ 27 _ 4 _;
2. туз паветранага бою = 22 _ 24 _;
3. мусульманскі міністр = 10 _ 11 _ 21 _ 8 _ 5 _;
4. хімічны элемент н-р 53 = 25 _ 26 _;
5. пакістанская рака = 1 _ 12 _ 2 _;
6. кісláваты напітак = 34 _ 35 _ 36 _ 33 _;
7. Вятка пасля 1934 года = 15 _ 16 _ 14 _ 13 _ 17 _;
8. частка рукі ад запясця да канца пальцаў = 6 _ 39 _ 20 _ 31 _ 32 _;
9. горнае ўзвышша з плоскай вяршыняй = 28 _ 29 _ 9 _ 7 _ 23 _;
10. маладзён = 30 _ 18 _ 19 _ 38 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | |
| | | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Чад, эрзац, грэшнік, Ельня, нетры, Ева, ствол, мат, Някляеў, манарх, Ядвіга, рыф, сава, Бердычаў.

Рашэнне: **Дзе нявесткі ў хаце тры, там няма вады ў вядры**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 05.07 — 11.07

**(22.03. — 20.04.)** 5-6.07. паявіцца каля цябе хтосьці, кім варта пацікавіцца. 7-11.07. будзеш у змозе зрабіць смелы, добра абдуманы крок. Магчымыя запаленні і праблемы са скурай, выкліканыя стрэсам; адпачывай, расслабляйся. У фінансах, калі ты народжаны 9-13.04., спакойна пачакай да жніўня.

**(21.04. — 21.05.)** 4-7.07. супрацьлеглы пол ад цябе ў захапленні; маеш шанцы падпісаць карысную дамову, схіліць іншых да твае думкі. Дома зробіш нейкія арыгінальныя змены. Увесь ліпень усе прыхільныя да твае асобы. А калі паявяцца важныя справы для вырашэння, разлічвай на дапамогу. Дбай аб рух і дыету; у ліпені лепш не пі кавы і алкаголю.

**(22.05. — 22.06.)** 5-6.07. вельмі добры час на здаванне экзаменаў і розныя курсы; будзеш зззяць інтэлектам, уразіш выкладчыкаў. Не сапернічай з партнёрам. Выразна аддзялі прыватную зону ад прафесійнай, прынамсі не выкарыстоўвай сям'і ў сваіх справах і не адавай часу прызначанага для яе. Цікавыя сустрэчы. Бывай у людных месцах — там можаш пазнаёміцца з братняй душой.

**(23.06. — 23.07.)** Калі шукаеш кахання, лёс на тваёй дарозе паставіць асобу, якую здабыць будзе нялёгка, але варта. А ў «закальцаваных» Ракаў у пары нуды не будзе, а нават будзе іскрыцца. Трымай дзяцей на вачах. Сустракайся, хадзі ў госці, падарожнічай. З 8 ліпеня — добры час шукаць працу.

**(24.07. — 23.08.)** У старой пары перайміі ініцыятыву, увязді ў сувязь больш агню. Калі мучаць цябе старыя непаразуменні, абавязкова паразмаўляй аб гэтым. Дбай аб сэрца і дыету. На працы сітуацыя незадавальняючая — магчымыя непаразуменні ці выяўленыя памылкі могуць трапіць у цябе як гром з яснага неба. Старайся не дыскутаваць, каб сабе моцна не зашкодзіць.

**(24.08. — 23.09.)** 9-13.07. старайся менш гаварыць, а больш дзейнічаць. З 8.07. да 23.07. акажацца, што тое, што цябе кранула і чаго ты дасведчыў у сферы пачуццяў, не пайшло дарма. Праўда, заплаціш за пару памылак і расплачышся з мінулым, пазбудзешся эмацыйных даўгоў, але адчуеш сябе вельмі лёгка. Дома будзеш вельмі лагодны і ўсёдавальны. Пільнуй дыеты, бо цяпер будзеш ласомы, і варушыся. Не раскідвайся грашыма.

**(24.09. — 23.10.)** У пары магчымы бурлівы ўвесь месяц. Але ў гэтым тыдні дома згода і поўная гармонія. Будзеш мець падтрымку разумных жанчын — слухай іх парад, бо ведаюць што гавораць. Сустрэне цябе нейкае незвычайнае здарэнне ў вядомай табе групе; пазнаёмішся з кімсьці, хто вельмі адменіць тваё жыццё. Хоць будзеш слабейшы, не адпускай тэмпу, каб не трапіць у апатыю.

**(24.10. — 22.11.)** У ліпені ты вельмі спраўны, энергічны, пазітыўна пабуджаны. У фінансах рабі ўсё абдумана. 7-11.07. будзеш у выдатным настроі, шчаслівa пойдуць усялякія сустрэчы. На працы пакажаш максімум занятасці. Выходзь да людзей — зловіш новае дыханне і лепш станеш сябе адчуваць. У пары засяродзься на доўгачасовых планах — цяпер маюць агромны шанц на здзяйсненне. Дома крыху замяшання, многа неадкладных спраў. Да вырашэння падыходзь сур'ёзна, нічога не камбінуй.

**(23.11. — 22.12.)** 5-7.07. добры час на падвядзенне вынікаў, вызначэнне новай дарогі. 7-11.07. дагаворышся з партнёрам, будзеш дзейнічаць талкова і з добрай інтуіцыяй. У час сямейнай урачыстасці трапіць табе ў вока хтосьці, з кім наладзіш бліжэйшы кантакт. Асцерагайся, аднак, адной спелай жанчыны, якую бачыш часта — не жадае яна табе дабра, пастарайся пазбыцца яе з твайго кола.

**(23.12. — 20.01.)** Паважай сваіх праціўнікаў і перш за ўсё іх не правакуй, асабліва 5-8.07. Памятай б выкананні сваіх абяцанняў. Будзеш бачыць плюсы там, дзе іншыя бачаць мінусы. Ашчаджай сваё здароўе. Калі стараешся мець патомства, 5-8.07. будзе ўдача!

**(21.01. — 19.02.)** 6-10.07. прадбачваюцца фінансавыя турботы і праблемы з правам. Хтосьці можа выкарыстаць сваю перавагу над табою і зашкодзіць табе. Дома хвіліны шчасця пераплятаюцца з момантамі горычы. Але будзеш мець сілу і вялікі гарт духу. Вадалеі народжаныя пасля 15.02.: вельмі дбайце аб сваё вочы.

**(20.02. — 21.03.)** Зважай на злыя языкі, што схочуць папсаваць лады ў тваёй пары. Найбліжэйшыя акажуць табе падтрымку і пабудзяць да розных адважных дзеянняў. Зважай толькі на старэйшага мужчыну, якога лічыш сябрам — у ліпені можа цябе моцна падвесці. Рыба народжаная пасля 13.03. няхай хутка лечыць свае дыхальныя шляхі — не сама.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.




Марыя Сашка

# Аднойчы ў Венецыі

Хтосьці напісаў: — *Приходит время, люди голову теряют, и это время называется весна. — И никуда от счастья не уйдёшь, однажды, однажды...*

* * *

З Варшавай яна развітвалася ў гарачым сонцы. — Хто і куды гоніць цябе, Даніэль, у гэткую цудоўнасць вясеннелетняй цеплыні? — пыталі яе суседзі.
— У Венецыю? А-а, значыць, іншая матэрыя!.. Канферэнцыя археолагаў? У такі час? Ці там пашалелі «вучоныя розумы» ц-я-п-е-р? Крэслы выціраць ды драмаць у летнюю гарачыню? На нейкіх дакладах-тэорыях пра замежна-марскія знаходкі-выкапалішчы? А лета, а пляж? Як быць, апынуцца ў такім горадзе-цудзе, што на вадзе стаіць ад вякоў? Які сам — хоць бы проста звычайна стаяў, ды нават пусцюсенькі (што немажліва) — ён жа і так — каляровае к-і-н-о, к-і-н-о! Рэальнасць і міраж! Стаянне і плывучасць! Музыка і спеў!.. Шалёныя гэтыя твае італьянцы, дзяўчына, красы свайго няўжо не цэняць? Яе аглядаць трэба (а не ў пакоях-залах-нават палацах сядзець!), пагодай любавацца! Хаця што для іх ц-а-н-а лета, калі для іх і зіма іхняя што наша вясна, балахоны пявучыя, зубаскалы вясёлыя!.. Ты іх там правучы, Данусь, парадак знаць-ведаць, гэтых вучоных ашаломаў-капальшчыкаў зямных. Гандальераў, перавозчыкаў!..
Самалёт у Мілан быў прасторны, усе расселіся з радасцю, бо і сонца за вокнамі было такім жа вясёлым і радасным. Цяплынь была паўсюды, ляпей і не скажаш пра гэты дзень... Прынеслі есці.... Думкі-ўспаміны навярнуліся, прыйшлі, прыплылі, набеглі, наляцелі, абнялі Даніэль... Яна ціха рассмяялася...

* * *

— Ну, ужо мне гэта Элька! (Яе, сцішка, называюць Элька Эратычка!) Кожны дзень у яе «новая любоў», кожны дзень яна заяўляе: «уміраю, смерць мне!», каб заўтра сказаць: «ах, гэта была памылка!..». Праз дзень яна пабяжыць удагонкі за «новым цудам», якое спаткала на вуліцы, у трамваі, у суперсаме... То расплачацца, то рассмяецца...
Даніэль пярэчыла і адмаўлялася, і на гэты раз знаёміць яе са сваімі супрацоўнікамі з універсітэта — а якіх яна не знала? Не ведала? — Сястрычка, брыльянцік ты мой (хоць не родны), ну смерць мне, што маю рабіць?.. Гэта брат тваёй каляжанкі, што з кіна-экрана зышоў, гэта чарната якаясь, не польская, мо турэцкая ці саудаўская?.. Дапамажы!.. Была я ў цябе, глянула — маці мая родненькая, трымайце мяне — ангел, х-е-р-у-в-і-м! райскі, эдэмскі стаіць, свет красой азарае, увесь твар сонцам-усмешкай абліў!.. Дасюль нябачаны дух крылаты, нябесны, з чорнымі брывамі-лапатамі, з вусікам-палосачкай ледзь прыклеенай, з вейкамі ў метр даўжыні, вачамі — распаленымі вогнішчамі-бліскавіцамі, што ўлева ды ўправа кідаюцца, у цябе ў дзясятку цэляцца, страляюць, п-а-п-а-д-а-ю-ць!..
— Анямела я, Даніэлька ты мая, ап'янела ад яго ўсмешкі, а ён мне, пастралёнышамур, кланяецца «з добрым утрам», вітаецца маргае да мяне. Балваніцы, то язык праглынула, у саляны стоўп ператварылася!..
— Элька, каб не наракала, я ж адна, сама, а калі яго ў цябе ўлюблю — тваю залатую чарноту-каштоўнасць, як тады зараўеш? Як зубрыха ў пушчы застогнеш! Ну, ладна, мо ўладзім, слёзы твае асушым, а сабе іншага здабудзем, пашукаем!..
— Ды за табой, Данусь, мадмуазэль Даніэль (з бацькі парыжскага ды праваслаўнай варшавянкі), табун цэлы і так аслеп ды ты не бярэш ніводнага! Палова мітрапалічага хору ноты ў спеве путае-блытае-мяшае, на цябе ўсё лыбіцца ў час Святой Службы! Хлопцы нават «амінь» сапсуюць, а рэгент кулакамі трасе, па дарозе на нас, альтоў, беспрычынна ерапеніцца, вішчыць на ўвесь сабор, аж мітрапаліт аглядаецца!.. Ну, Даніэлька, сонечка ты маё, пашкадуй ты якогась боса-тэнара нашага! Ды кінь ты слямузіцца пра таго амерыканца беластоцкага, Ваню дурнога, што цябе на старую бабу-амерыканку памяняў! Грош яму цана, а ў кішэнь яму хай нават і мільён, таму дуралею-прастафілі! Падумаеш — дачка рэктарская, ну й што? Ты сама ўжо ў нас прафесар, хоць наймалодшая з усіх, бо галава твая слаўная-мудрая-вучоная і душа-сэрца ты для нас усіх!.. І да цябе шчасце прыімчыць, пабачыш, нават я гэта носам чую, і ўсе мы заспяваем табе, як жа прыгожа, ва ўсе духі нашы, харавыя, калі ў саборы радасна пачуем: «Венчается раба Божая Даніэль, рабу Божаму» — і тут імя яго б-у-дз-е! — «во имя Отца и Сына и Святаго Духа». А-м-і-нь»!

* * *

— Данусь, ты ў нас бальсам на вшыстко, масць найлепша-каёнца на ўсе болі нашы і балячкі; ты ся ўсмехнеш і свят ладнее, дапраўды, чы я не вем?.. Такая краса навокал-ся робі-чыні! Ты дапомуж!..
— Данусь, дзецко мое ты каханэ, ты моя дачушка, ты чула цо он выспявуець, выкшыкуець, тэн Карольцё, на сходах до мне, на лесвіцы нашай? Тэн бандзюжнік з-пад Гродна? — жалілася цётка Валерця, што паверхам вышэй ад Даніэль. — Каму я скажу, пажалуюся? Нікога апруч цябе і тваіх маман і папа, каханых суседаў маіх, не маючых нікога на свеце?.. Цо я — дзяўчук які? Ён спеваў до мне ды ешчэ-ся кінуў до мне, і пляснуў у шчоку, пацаловаў!.. То я яго парасолькай і торбай і важывамі па лбе, якраз з базару йшла, па лысіне, ах ты зараза праціўна!.. Накрычала яму, намувіла, жэ я не булгарка з шосы-асфальту, а цяпер, Данусь, шкадую, бо цо он такога зробіў злога? От, дурна я вільнючка стара, Валерця дурнавата!..
— Ну, як жа, песню тую яго то я добра вем і знаю, яна пшэдвоенна, але гэтак каб да мяне, вільнючкі ад Віліі пенкнай, тыкаць у сама сэрца, без пашанаванкі жаднай-ніякай (ну, не заўсім гэта поўна праўда, бо я з Вілейкі родам з-пад Маладзечна, але мой Казімеж быў з Вільна, то і я адтуль, пасля яго, пакойніка мілага!)...
— Карольцё, паскуда старая, выспявуе мне глосьна; на ўвесь дом наш, блёк, гучыць: «Moja Walerciu, wsadzę ci. Moja Walerciu, wsadzę ci. Wsadzę ci piórko do kapelusza. Moja Walerciu wsadzę ci!..». Ах ты, паганец, стары сатыр ды свінюк лысы, вось, цо ты для мне ест, браце сонседзе! Вось, цо ты для мне становіш!.. Пень асінавы ты глухі, старэча-патарэча!.. Ці я тобе Зоха, цо то з чвартэга этажу ў нас ест пшэцеж? Жэ па тобе вочы выплакуець, у свае восем і восем?.. Куды ж мне там да яе, мне дзесяць-дванаццаць менш чымсьці тэй пурхаўцы старой, цо понкі кветнэ-ружанэ распушчаець перад Карольцем!.. Бо цо она мае напшэціў мне? Она тылька з Баранавіч, а я маю свае Вільна з Віліяй, з Маткай Вострабрамскай, цмантажамі на Россі і Антаколю, дзе сама, жывой будучы, месца і сёння мець хочаш — жэбы хоць паседзець у красе гэтай! — адкуль табе і не хцэся ні адходзіць, ні ўагуле-ся разланчаць!.. Вось цо як па-нашэму кажучы!..
— А знаеш, Данусь, ён-ся і не ўстыдзі і Зосьцы рамансы спяваці пахабны — а чаму і для яе такжа? — нібы пра яе для яе, з яе імем — дзесь панавучваўся, а тая ўсё слініцца ад шчасця, нюньку распускаець ад шчэнсця, сумазбродка, старая панчоха!.. «Zocha, Zocha, Zocha izbu zamiatała i Karolcia zawołała: wy, wy, wy — Karolciu co robicie, wy nam Zochę zadusicie! On, on, on obściskał tę Zosinę — razem za nią pod pierzynę! A ja, a ja, a ja Zochy nie zaduszę, lecz com zaczął — skończyć muszę!».
— А яна квітнее, понкі распушчае кветнэ, старая безабразніца-правінцыюшка з Баранавіч, ці з Ліды, ці Брэсцяя, а ся монджыць — капішонка старая, капялюшка палысела, дзе й была адна там валасіна але й тую блыха адкусіла... Вось цо она тэраз ест!..
— Данусь, прошу я цябе, ты пакліч яго да мяне, Карольця, магамета таго дурнога, нех-ся ён больш не валтузіцца, не дуецца, не злосьціць, дурны балабон адзін, важняцкі, праціўны!.. Данусь, ну да каго я пайду, га? Ты нас поладзь, паміры!.. Карольцё ся замкнуў у сабе, можа ён хворы якісь? Кашляе, працівец, душагуб, рве грудзі як гармата-кацюша, выйдзі на сходы — пачуеш! Ён жа сам як патык! Мы тут гэтыя са Усходу такія, жонка яго — Янка абумарла ж, і мы тут з Зохай у той Варшаве як цудзы зоўсім, як бы і не нашы, польскі; з нашым тамтэйшым як порувнаш? Людзі тут горшы, самолюбны акропне!.. Нам бы да Вільна, але там ліцьвіны нас ганяюць: «Вам тут не Польска, старухі!». Былі з катэдры выгналі, «Айчэ наш» не давалі па-польску змувіць, памодліцься! Цо то потэм сам папеж Ян Павел был пшывруціл!.. Хшэсціяны таке малёваны! Што ў Унію ўлезлі! Але ў той Яўропе яке месца і час для Пана Хрыстуса, час ёсць толькі на бізнэс ды капітал!.. Нам-ся трэба трымацца разам, а той арангутан паперасяны, табачны, у гонар упаў з маім бабскім верашчаннем! А хто накрычыць? Янкі ж няма! Скажа яму: хай прыйдзе, у карты пайграем, маладосць нашу ўспомнім, перад смерцяй, а? Данусь-злотка, срабэрка ты наша?!.
— А цяпер — хадзі да майго пакою, вайдзі, руку мне падай, мая ты ружычка красна, геаргінія ты пенкна, карты разложым!.. О-о-о, ты далёка едзеш, ляціш, Данусь, у краі зялёныя; ты, дачунька, патшай, карты глосяць-указуюць — ты па шчэнсце сваё спешыш, хоць ты таго і не веш ешчэ!.. Мужа свайго там споткаш, пшыемны ён вельмі — гэты велькі хлопец, блёндын шыкарны; узростам — як дуб-сосна пушчанская, фігурай ладны агромне! Гладкі, красівы, анельскі!.. Вада там наўкола вяліка, мора ўскрось і вокул — доконд-ся выбераш!.. Венецыя, кажаш цо на водах стоіць, распалажылась... Шчэ я такіх картаў, Данусь, мая ты зоранька, і не аглядала ніколі, жэбы яны так-ся дакладна разлажылі і поведзелі цо і як мае быць у цябе насапраўды!..
— Ты пра таго амарыканца забудзь, запомній, то якась памылка цудачна ў жызні тваей; нех жа он там бізнэс свой робі, кар'еру, не шкадуй яго! Жэ тэсць там яго рэктар якісь, чэгось там, важны! Нехай Йорк Новы ці Вашынгтон цэлы возьме сабе, на апэтыт ему бэндзе! І так скавытаць потым стане жэ прафуярыў таку цябе, ксянжнічку, разумну і красіву, анёла такога нашага светлага, яснага!..
— З Богам, донцю ты наша, ехай ты ў тыя палудні цёплыя, на радасць сваю пэндзь, паспешай!.. Мы тут завжды шчасця табе зычым, мартвімся: цо то ты яшчэ паедынкай сама ходзіш, хоць така красуня, бацькоў сваіх і нас засмучаш!.. Але ўжо нядоўга — вернешся ўжо не сама, от, увідзіш, галубка ты наша!.. Кажу табе — карты так аглашаюць!.. Даў бы гэтага і Пан Езус і Марыя Маці Яго Прэсвятая — Віленская-Вострабрамская і Чэнстахоўская, бо і ты ў нас сама — з неба, як анёл найдабрэйшы!.. Едзь, ляці і шчасліва хутка-ся вяртай!.. З Богам, ва імя Айца, і Сына, і Святага Духа!.. Ляці, бяжы, валізкі бяры!..

(працяг будзе)

ISSN 0546-1960